СЕРЫЯ
«БЕЛАРУСКАЯ ТУРЭМНАЯ ЛІТАРАТУРА»
заснаваная ў 2017 годзе
распрацаваная Праваабарончым цэнтрам «Вясна»

«Бязродны касмапаліт» Кім Хадзееў ды іншыя : Пераслед іншадумцаў за савецкім часам : зборнік дакументаў / укладальнік Уладзімір Валодзін. — Мінск, 2020. — 220 с. : іл. — (Серыя «Беларуская турэмная літаратура»; вып. 9).

Навукова-папулярны зборнік «Бязродны касмапаліт Кім Хадзееў ды іншыя» — 9-я кніга серыі «Беларуская турэмная літаратура». Яе ўкладальнік гісторык Уладзімір Валодзін даследуе тэму рэпрэсій за іншадумства ў савецкія часы і раскрывае малавядомыя дэталі пераследу прадстаўніка мінскага андэграўнду Кіма Хадзеева (1929–2001): адлічэнне з універсітэта, дзве крымінальныя справы 1951 і 1962 гадоў, зняволенне ў псіхіятрычнай бальніцы.

У зборніку даецца шырокі кантэкст падзей (кампанія па барацьбе з «касмапалітызмам», самвыдат). Сярод дзейных асоб — Павел Уліцін, Юрый Айхенвальд, Аляксандр Асаркан...

Большасць дакументаў публікуюцца ўпершыню.

Падобнае навукова-папулярнае выданне ўпершыню выйшла ў серыі «Беларуская турэмная літаратура».



У афармленні вокладкі выдання выкарыстаны здымак вокладкі асабовай справы Кіма Хадзеева, на адвароце — фотаздымак з яго залікоўкі.



ВЯСНА
праваабарончы цэнтр

«Бязродны касмапаліт»

# Кім Хадзееў

ды іншыя

**Пераслед іншадумцаў за савецкім часам**

Зборнік дакументаў

Укладальнік Уладзімір Валодзін




**«Беларуская турэмная літаратура»**
**Мінск**
**2020**

ЗМЕСТ

# АДЗІН ПРАВІНЦЫЙНЫ ГОРАД І ДЗВЕ КРЫМІНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ: ПРАДМОВА

Постаць Кіма Хадзеева (1929–2001) прыцягвае да сябе ў апошнія гады заўважную цікавасць. Яму прысвячаюцца вечары памяці[1], артыкулы[2], раздзелы ў кнігах[3]. Кім Хадзееў паслужыў асновай для стварэння літаратурных персанажаў у рамане Уладзіміра Някляева «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без». Перавыда-

[1] Ким Хадеев: городской миф, исторический факт, художественный текст [Відэазапіс вечара, прысвечанага памяці Кіма Хадзеева; вечар адбыўся 10 студз. 2015 г.]. Дата публікацыі: 16.10.2015. URL: https://news.tut.by/society/430787.html (дата звароту: 27.01.2020).

[2] Сушков А. Ким. Пепел и дым // Асоба і час: Беларускі біяграфічны альманах. Мінск : Лімарыус, 2015. Вып. 6. С. 313–337.

[3] Белоусов О. Мой город. Минск : Беларусь, 2005. С. 50–53, 57, 248–255; Кулон Антон [Астапенко Анатолий]. Синяя книга белорусского алкоголика. Минск : Харвест, 2013. С. 144–175; Кулон Антон [Астапенка Анатоль]. Сіняя кніга беларускага алкаголіка плюс. Мінск : Галіяфы, 2018. С. 161–190.

юцца артыкулы, напісаныя Хадзеевым у суаўтарстве[4]. Нарэшце, у 2019 г. пра яго быў выдадзены зборнік успамінаў[5].

У Мінску, як мала ў якім іншым горадзе, бракуе genius loci, духу месца. Гэты горад надзвычай безаблічны: пры тысячагадовай гісторыі яго фасадам служаць мадэрнісцкая нацыянальная бібліятэка (пабудаваная да таго ж на далёкай новай ускраіне), лядовыя арэны, «палац незалежнасці» і кічава-эклектычны храм Усіх святых. Не дзіва, што грамадства пасярод гэтакай пустэчы хапаецца за Асмолаўку і яе (былых) насельнікаў — хаця нядаўняя, а ўсё ж традыцыя; куток места, абагрэты ранейшым і сённяшнім жыццём, які выгодна вылучаецца на фоне «суперсучаснага» шкла і бетону. А асяродак Кіма Хадзеева становіцца прыкладам культывацыі чалавечых стасункаў не дзеля прыбытку, кар'еры, поспеху ў капіталістычнай (ці «рэальна-сацыялістычнай») гонцы, а дзеля саміх стасункаў.

Дзякуючы сваёй неверагоднай здольнасці стасавацца з людзьмі Кім Хадзееў быў знаёмы з паловай інтэлігенцыі свайго горада. Таму праз прызму яго жыцця, яго кампаній, некалькіх пакаленняў яго вучняў можна вывучаць гісторыю мінскай інтэлігенцыі.

Народжаны ў Мінску, Кім Хадзееў быў сынам рускага вайскоўца (камандзіра ў Чырвонай арміі), што трапіў сюды пасля рэвалюцыі, і мясцовай яўрэйкі-на-

---

[4] Трестман Г., Хадеев К. Когда поэт переводит поэта [о переводах Наума Кислика с белорусского] // Минская школа : альманах поэзии. Минск : Новые мехи, 2014. Вып. III. С. 360–383; Трестман Г., Хадеев К. Человек на заре [рец. на: Берёзкин Г. Человек на заре: рассказ о Максиме Богдановиче — белорусском поэте. Москва : Худож. лит., 1970] // Минская школа : альманах поэзии. Минск : Новые мехи, 2019. Вып. IV. С. 323–333.

[5] Ким. Великий прохожий. Вероятные истории / сост. А. Сушков, Е. Будинайте. Минск : Лимариус, 2019.

стаўніцы. Сям'я належала да бальшавіцкай эліты, таму здолела эвакуявацца ў Другую сусветную вайну, а пасля яе паспяхова вярнуцца ў Мінск. Сын-вундэркінд у 1947 г. без праблем паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і бліскуча на ім вучыўся.

Але далей здарылася тое, чаму і прысвечаны дадзены зборнік дакументаў, — сутыкненне Кіма Хадзеева з карнай сістэмай СССР, і ў прыватнасці з палітычнай паліцыяй.

Кім Хадзееў праходзіў па дзвюх крымінальных справах — у пачатку 1950-х гг. і ў 1962 г. І абедзве крымінальныя справы па-свойму характарызуюць свой час. Першая звязаная з так званай «барацьбой з бязродным касмапалітызмам» ды іншымі ідэалагічнымі кампаніямі позняй сталіншчыны. Другая — з самвыдатам часоў «адлігі», з літаратурнымі (шырэй — мастацкімі) пошукамі, з моладзевымі кампаніямі (як сказалі б пазней, тусоўкамі) тых часоў.

У кнізе сабраныя некаторыя дакументы, звязаныя з гэтымі крымінальнымі справамі, прычым робіцца спроба паказаць іх у больш шырокім кантэксце, чым біяграфія самога Кіма Хадзеева, у сувязі з іншымі сюжэтамі беларускай гісторыі (і расійскай літаратуры). Аднак публікацыю дакументаў варта папярэдзіць разборам вядомага пра падзеі 1949 і 1962 гг.

## Выключэнне Кіма Хадзеева з універсітэта і ягоная першая крымінальная справа[6]

Пра выключэнне Кіма Хадзеева з універсітэта ў 1949 г. і крымінальную справу, распачатую ў той перыяд, ходзіць шмат легенд (стварaліся яны не без удзелу самога Кіма Хадзеева), але мы маем на руках мала «цвёрдых фактаў». Таму варта паспрабаваць сабраць гэтыя факты разам, а таксама паказаць тло, на якім разгортваліся падзеі.

Раней гісторыя з шальмаваннем Аляксандра Шлыка і Кіма Хадзеева за «касмапалітызм» у агульным кантэксце ідэалагічных кампаній позняга сталінізму разглядалася гісторыкам Артурам Зельскім у кнізе па гісторыі БДУ. Але разглядалася без дэталяў, як маленькі фрагмент гісторыі ўніверсітэта, без указання на далейшы лёс герояў, без згадкі пра Разіту Калпакчы, са скажэннем прозвішча Хадзеева («Хадзевіч»). Гэта адзіная вядомая ўкладальніку зборніка згадка справы ў гістарыяграфіі[7].

Сваю версію падзей Кім Хадзееў сцісла выклаў у інтэрв’ю Алегу Белавусаву, вытрымкі з якога публікуюцца ў гэтым зборніку.

У дакументах фонда 205 (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт) Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (далей — НАРБ) імя Кіма Хадзеева сустракаецца спачатку ў загадах рэктара на атрыманне стыпендыі выдатніка. Так, загадам № 108 рэктара БДУ Уладзіміра

[6] Раней укладальнікам дадзенай кнігі па просьбе Дзмітрыя Строцава была зробленая публікацыя на гэтую тэму: Володин В. Исключение Кима Хадеева из университета // Минская школа : альманах поэзии. Минск : Новые мехи, 2014. Вып. III. С. 422–429.

[7] Яноўскі А., Зельскі А. Гісторыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў біяграфіях яго рэктараў. Мінск : БДУ, 2001. С. 104–105.

Тамашэвіча ад 2 ліпеня 1948 г. Кім Хадзееў быў пераведзены на 3-і курс са стыпендыяй выдатніка[8], а загадам № 24а ад 2 лютага 1949 г. атрымаў стыпендыю выдатніка па выніках зімовай экзаменацыйнай сесіі. Тым самым загадам стыпендыя выдатніцы была прызначана студэнтцы 1-га курса філалагічнага факультэта Розе Калпакчы[9] (пра тое, хто гэта такая, — ніжэй).

Завязкай гісторыі паслужыў культпаход студэнтаў універсітэта (на той час універсітэт у Беларусі быў адзін — Беларускі дзяржаўны) на спектакль «Князь-возера» ў Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР у студзені 1949 г. Балет «Князь-возера» (у тым сезоне — прэм’ерны) быў пастаўлены на музыку Васіля Залатарова рэжысёрам Барысам Мардвінавым і балетмайстрам Канстанцінам Мулерам. Лібрэта для балета напісалі балетмайстар Васіль Вайнанен і пісьменнік Міхась Клімковіч у супрацы з В. Залатаровым. У 1950 г. за балет «Князь-возера» В. Залатарову, К. Мулеру, мастаку Сяргею Нікалаеву і выканаўцам галоўных роляў Сямёну Дрэчыну і Аляксандры Нікалаевай была прысуджаная Сталінская прэмія.

27 студзеня 1949 г. у газеце «Літаратура і мастацтва» з’явілася рэцэнзія Браніслава Смольскага і Уладзіміра Алоўнікава на спектакль. Пахваліўшы музыку В. Залатарова, мастацкае афармленне С. Нікалаева і працу салістаў балета, рэцэнзенты ў цэлым адмоўна ацанілі працу рэжысёра, балетмайстра і дырыжора (Іллі Гітгарца). У канцы рэцэнзіі яе аўтары раілі: «Пастаноўку неабходна дапрацаваць, звярнуўшы асаблівую ўвагу на сцэнічную інтэрпрэтацыю музыкі і культуру танца».

---

[8] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 205. Воп. 6. Спр. 22. Арк. 306.

[9] Тамсама. Спр. 32. Арк. 31.

Тое, што гэтая пастаноўка была не надта ўдалай, можна зразумець і з таго, што ў рэпертуары тэатра яна не затрымалася. На тую ж музыку ў тэатры оперы і балета Беларусі неўзабаве былі зробленыя два іншыя балетныя спектаклі: «Аповесць пра каханне» (1953) і «Палымяныя сэрцы» (1955).

То не дзіва, што трое студэнтаў БДУ, якім даручылі выступіць на абмеркаванні спектакля, пакрытыкавалі яго. На жаль, мы не можам дакладна меркаваць, у чым менавіта заключалася крытыка: Кім Хадзееў у размове з Алегам Белавусавым, што публікуецца ў гэтым зборніку, быў нешматслоўны, а ў архіўных дакументах і артыкулах са шматтыражнай газеты словы ідэалагічных «ворагаў» бязбожна пераваралiся. Тое, што можна зразумець: студэнты крытыкавалі ўвядзенне ў балет драматычных сцэн.

Хто гэтыя студэнты? Іх імёны: Кім Хадзееў, Аляксандр Шлык і Разіта Калпакчы. Кім Хадзееў нам ужо вядомы, хто ж двое іншых?

Аляксандр Аркадзевіч Шлык (1928–1984), беларус, на той час студэнт 4-га курса хімфака, чалец ВЛКСМ з 1942 г., кандыдат у чальцы УКП(б) з 1946 г., быў прыняты ў партыю 10 верасня 1948 г. на партыйным сходзе БДУ. Адна з трох рэкамендацый была ад Давіда Яўсеевіча Фактаровіча[10]. Цягам двух гадоў А. Шлык быў сакратаром камітэта камсамола БДУ, але на час гэтых падзей ужо склаў з сябе паўнамоцтвы сакратара.

Каб лепш зразумець далейшыя паводзіны А. Шлыка ў гэтых падзеях, варта ведаць наступны факт: 8 красавіка 1948 г. ён, будучы кандыдатам у чальцы партыі, зрабіў заяву ў партбюро БДУ аб тым, што яго бацька ў 1934 г. быў асуджаны паводле закона ад 7 жніўня

[10] НАРБ. Ф. 205. Воп. 16. Спр. 13. Арк. 71. (Пратаколы агульных партыйных сходаў БДУ імя У. І. Леніна за 1948 г.)

1932 г.[11] З ходу разгляду заявы вынікае, што бацька ў 1948 г. прыехаў у Мінск, і хаваць далей блізкае сваяцтва з рэпрэсаваным стала небяспечна. Тады А. Шлыку ўсяго толькі «ўказалі» на «необходимость всегда и во всём быть откровенным перед партией»[12].

Пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1950 г. А. Шлык з-за гісторыі з выступам на абмеркаванні балета «Князь-возера» вымушаны быў змяніць спецыялізацыю, з хіміка стаць біёлагам. У 1954 г. ён абараніў кандыдацкую дысертацыю і быў прызначаны намеснікам дырэктара Інстытута біялогіі АН БССР. У далейшым ён абараніў доктарскую дысертацыю (1963), атрымаў званне прафесара (1965), быў абраны членам-карэспандэнтам АН СССР (1966), стаў дырэктарам Інстытута фотабіялогіі АН БССР (1973). Ранняя смерць абарвала яго навуковую дзейнасць[13].

Разіта (Роза) Маісееўна Калпакчы паступіла на філалагічны факультэт БДУ ў 1948 г. Вучылася яна на выдатна, была старастай курса. На жаль, звестак пра

[11] Пастанова ЦВК і СНК СССР ад 7 жніўня 1932 г. «Об охране имущества государственных предприятий, колхозов и кооперации и укреплении общественной (социалистической) собственности», якая атрымала народную назву «закон о трёх колосках». Пастанова прыраўноўвала грузы на чыгуначным і водным транспарце, а таксама калгасную і кааператыўную ўласнасць да дзяржаўнай уласнасці. Мінімальным пакараннем за «раскраданне» гэтай уласнасці было ўстаноўлена пазбаўленне волі на тэрмін 10 гадоў з канфіскацыяй усёй маёмасці, максімальным — расстрэл з канфіскацыяй усёй маёмасці. Пастанова масава прымянялася ў гады масавага голаду ў СССР (1932–1933) і працягвала прымяняцца ў далейшым.

[12] НАРБ. Ф. 205. Воп. 16. Спр. 14. Арк. 38–39. (Пратаколы паседжанняў партыйнага бюро БДУ імя У. І. Леніна за 1948 г.)

[13] Волотовский И. Д. Жизненный и творческий путь Александра Аркадьевича Шлыка // Люди белорусской науки. Воспоминания современников. Минск : Белорус. наука, 2008. Вып. 2. С. 359–363.

яе вельмі мала, ёсць толькі моўны партрэт з інтэрв’ю з яе аднакурсніцай Бертай Львоўнай Кіштымавай: «Как-то она среди всех очень выделялась. И внешне, и то, что такая, оригиналка, что ли. Чёрные волосы длинные, такая она полноватая. Шумная такая. Но чтобы она бунтовала, это я [не замечала]. […] С кем она дружила? Это были старшекурсники. Вот кого я помню, это Семён Виногур или Виногура. Это группа была, они собирались. О чём они говорили, этого я не знаю. Потому что там старшекурсники, а я перешла на второй курс тогда только [увосень 1949 г. — ***У. В.***]»[14].

Прыкладна ў той час, калі студэнты абмяркоўвалі балет «Князь-возера», у тэатральным жыцці краіны адбываліся драматычныя падзеі. Артыкулы газеты «Правда» «Об одной антипатриотической группе театральных критиков» (28 лютага 1949 г.) і газеты «Культура и жизнь» «На чуждых позициях. О происках антипатриотической группы театральных критиков» (30 лютага 1949 г.) далі старт чарговаму вітку антысеміцкай і, больш шырока, ксенафобскай кампаніі па «барацьбе з бязродным касмапалітызмам». Асноўнымі пацярпелымі ад кампаніі ў Беларусі тэатральнымі дзеячамі былі галоўны рэжысёр Купалаўскага тэатра Леў Літвінаў і галоўны рэжысёр Дзяржаўнага рускага тэатра БССР Віктар Галаўчынер (абое — этнічныя яўрэі і былыя рэжысёры Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР)[15]. Літвінаў і Галаўчынер вымушаныя былі пакінуць Беларусь і да канца кар’еры працаваць па-за яе межамі. Асноўнай пацярпелай ад кампаніі інстытуцыяй стаў Дзяржаўны яўрэйскі тэатр БССР, які быў

[14] Інтэрв’ю з Кіштымавай Бертай Львоўнай, 1930 г. нар. Мінск, 2015 г. Інтэрв’юер Уладзімір Валодзін.

[15] Гл., напрыклад: Есакоў А. Носьбіты бязроднага касмапалітызма // Літаратура і мастацтва. 1949. 14 лют. С. 3–4.

зачынены ў красавіку 1949 г., але рыхтавалася яго закрыццё акурат у лютым 1949 г.[16]

Праблемы ў нашых герояў пачаліся не імгненна пасля іх «няправільных» выступаў на абмеркаванні, а прынамсі на месяц пазней. Тут, праўда, трэба агаварыцца: не ўсе партыйныя і асабліва камсамольскія сходы пратакаліраваліся, ды і з напісаных пратаколаў ацалелі далёка не ўсе. Але з тых дакументаў партыйнай і камсамольскай арганізацый БДУ, якія захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, вынікае, што нападкі на Хадзеева, Шлыка і Калпакчы пачаліся заўважна пазней за сам выступ. Яны сталі часткай кампаніі па барацьбе з «бязродным касмапалітызмам», падагрэтай XIX з'ездам КП(б)Б.

3 сакавіка 1949 г. на філалагічным факультэце БДУ адбыўся закрыты камсамольскі сход, на якім з дакладам пра вынікі XVI з'езда ЛКСМБ выступіў сакратар ЦК ЛКСМБ Пётр Машэраў. Захаваўся рукапісны пратакол сходу. У спрэчках па дакладзе выступіў студэнт 3-га курса літаратурнага аддзялення Барыс Лапаў: «Съезд указал на необходимость борьбы с космополитизмом, эстетством. И у нас это выполняется не полностью. До сего времени не было проведено обсуждение материалов по антипатриотической критике. Это сказалось в обсуждении балета "Князь-озеро". Студ[ент] Шлык заявил, что в балете не должно быть мысли, а должно быть только чувство. Шлык утверждал, что сюжет балета шибко революционизирован»[17].

---

[16] Гл.: Записка секретаря ЦК [КП(б)] Белоруссии Н. И. Гусарова Г. М. Маленкову с просьбой разрешить закрыть еврейский драматический театр в Минске. 8 февраля 1949 г. // Сталин и космополитизм. 1945–1953. Документы Агитпропа ЦК / сост. Д. Г. Наджафов, З. С. Белоусова. Москва : Междунар. фонд «Демократия», 2005. С. 265.

[17] НАРБ. Ф. 205. Воп. 18. Спр. 6. Арк. 10. (Пратаколы камсамольскіх сходаў факультэтаў БДУ за 1949 г.)

А студэнт 3-га курса аддзялення логікі, псіхалогіі і рускай мовы Мікалай Галенка больш дэталёва распавёў пра даклад Кіма Хадзеева: «В докладе ст. Ходеева о книге Полевого “Повесть о настоящем человеке” есть слова: “Маяковский является восклицательный знак плюс глагол”. Так творчество талантливого поэта приравнивается с глаголом. “Маяковский — сапог рабочего класса” — заявляет далее докладчик. Все студенты критиковали доклад, но А. М. Базиленко выступила с защитой доклада. Вот к чему приводит реферирование книг. Грош цена такой научной работе. А захваливание доклада научными работн[иками] только путает студентов»[18]. У канцы сходу з залы паступіла пытанне: «Как расценивает комсом[ольское] бюро выступление тов. Хадеева, Шлыка, Колпакчи на обсуждении балета “Князь-озеро”?» Адказ быў дадзены няўцямна: «Судя по выступлению тов. Лапова, на данный вопрос был дан правильный ответ»[19].

4 сакавіка 1949 г. ва ўніверсітэцкай газеце «За сталінскія кадры» з’явіўся рэдакцыйны артыкул, прысвечаны вынікам XIX з’езда КП(б)Б. Паколькі асноўнай тэмай у сферы ідэалогіі справаздачнага даклада першага сакратара ЦК КП(б)Б Мікалая Гусарава на з’ездзе была «барацьба з бязродным касмапалітызмам», то яна ж стала і асноўнай тэмай артыкула. Адзін абзац быў адведзены на знаёмых нам студэнтаў: «На асобную частку студэнтаў да гэтага часу працягваюць аказваць уплыў тэорыі эстэцтвуючых фармалістаў у тэатральнай крытыцы, ускрытыя ў нашым бальшавіцкім друку. Аб гэтым сведчаць выступленні студэнтаў А. Шлыка, К. Хадзеева і Р. Калпакчы на абмеркаванні

[18] НАРБ. Ф. 205. Воп. 18. Спр. 6. Арк. 17. Ганна Мартынаўна Базыленка працавала старшым выкладчыкам кафедры рускай мовы і агульнага мовазнаўства.

[19] Тамсама. Арк. 23.

балетнага спектакля "Князь-возера". Змест іх выступленняў звадзіўся да паўтарэння поглядаў, варожых нашаму савецкаму мастацтву»[20].

9 сакавіка 1949 г. на парадку дня адкрытага партыйнага сходу БДУ стаяла адно пытанне — «Вынікі XIX з'езда КП(б) Беларусі». На сходзе прысутнічала 136 чальцоў ВКП(б), 26 кандыдатаў і 160 беспартыйных. З дакладам пра вынікі з'езду выступіў дырэктар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б Іван Чымбург, які ў ліпені 1949 г. стане рэктарам БДУ. Асноўным абвінавачаным на сходзе быў прысутны Леў Бараг, на якога і накідвалася большасць выступоўцаў, але пра гэтую сюжэтную лінію я распавяду ніжэй. Сярод іншых слова ўзяў і студэнт філфака Восіп Ліўшыц. Ён нічога не сказаў пра «галоўнага касмапаліта» БДУ Л. Барага, затое падрабязна спыніўся на асобе К. Хадзеева: «XIX Съезд партии проходил в исторические дни, когда партийной печатью были вскрыты враги народа, вредившие нам в области нашего искусства и литературы, которые глумились над нашей советской действительностью и, воспевая всё реакционное, старались вести наш народ назад. Этим врагам у нас в Университете нашлись подпевалы. Я имею в виду так называемого студента Хадеева[21], который в беседах со студентами и в своих выступлениях с циничной наглостью клеветал на лучших представителей русской, советской литературы — Горького, Ал. Толстого, превознося в то же время таких реакционеров, как Победоносцева, Мережковского и др. После появления

---

[20] Па-большэвіцку выканаем рашэнні XIX з'езда КП(б)Б // За сталінскія кадры. Орган партбюро, рэктарата, камітэта ЛКСМБ, прафкома і мясцкома Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта імя У. І. Леніна. 1949. 4 сак., № 6 (29). С. 1.

[21] У гэтым дакуменце за подпісам сакратара партбюро БДУ М. Арлова Хадзееў спрэс называецца «Ходеевым».

в партийной печати статей, разоблачающих космополитов, Хадеев начал выискивать “цитаты”, пытаясь реабилитировать этих врагов нашего общества. На филфаке этому Хадееву предоставляли широкий простор для его враждебной деятельности. Несмотря на имевшиеся сигналы, ни деканат факультета, ни комсомольская организация не занялись этим типом. Наоборот, тов. Базыленко ратовала, чтобы бредовой доклад этого Хадеева был включён в повестку для научной сессии. У Хадеева имеются и единомышленники. Я имею в виду коммуниста Шлыка. Я считаю, что таким лже-студентам не место в Университете»[22].

Ад партарганізацыі хімфака выступіў кандыдат навук, дацэнт Абрам Баркан. Ён паспрабаваў абараніць гонар факультэцкага мундзіра і пры гэтым не вельмі «тапіць» А. Шлыка: «Парторганизация химического факультета имела суждение о выступлении Шлыка, хотя подробных сведений у нас и не имелось. Несмотря на то, что Шлык признал свои ошибки, эти факты говорят о нашей недостаточной работе. Если отдельные товарищи могли оказаться в плену у формалистов, то это говорит, что в нашей работе не все благополучно, недостаточно внедряются принципы большевизма»[23]. У сваім заключным слове на сходзе І. Чымбург паўшчуваў А. Баркана за занадта дыпламатычны выступ.

Каяўся і апраўдваўся А. Шлык: «Выступая в театре оперы и балета на обсуждении спектакля “Князь-озеро” я допустил ряд серьезных политических ошибок. К оценке балета я подошел с точки зрения эстетствующего формалиста. Я недопустимо критиковал либретто балета за то, что оно “шибко революционно”.

---

[22] НАРБ. Ф. 205. Воп. 16. Спр. 17. Арк. 17–18. (Пратаколы партыйных сходаў БДУ за 1949 г.)

[23] Тамсама. Арк. 18.

Но в данном случае я имел ввиду введение в балет небалетных сцен. Я просто допустил путанное выражение. О Хадееве: с Хадеевым я нахожусь близко, в товариществе. Я считал, что несоветские высказывания его носят только характер оригинальничанья. Но сейчас я заявляю, что у него не наше, не советское мировоззрение. Такого человека нет надобности держать в Университете. Мне хотелось бы сказать, что я не единомышленник Хадеева. Я был единомышленником только в выступлении»[24].

А студэнт 2-га курса аддзялення журналістыкі, сакратар камсамольскага бюро філфака Аркадзь Качароўскі дадаў: «Наша задача — искоренять космополитов, так как они мешают нашему народу итти к коммунизму. Студенты возмущены поведением Шлыка и Хадеева на обсуждении балета “Князь-озеро”. Хадеев пользовался в Университете чьим-то покровительством, не посещал занятия, сдавал экзамены как экстерн и в то же время получал индивидуальную стипендию. Хадеев все время проводил в библиотеке имени Ленина за чтением реакционных книг, которыми его снабжали некоторые работники. Известно, что в быту он ведет себя по-барски, с пренебрежением относится к товарищам. Большая вина комсомольской и партийной организации, что позволили Хадееву свирепствовать на факультете. Студенты филологического факультета просят убрать его из университета»[25].

Аспірант Юрый Васільеў, асноўны ўдар у выступе якога прыйшоўся па Льву Барагу, згадаў адным словам і Хадзеева: «Космополиты много напакостили в нашей науке. Фигура Хадеева — это плод космополитизма»[26].

У канстатуючай частцы рэзалюцыі сходу было зга-

[24] НАРБ. Ф. 205. Воп. 16. Спр. 17. Арк. 21.
[25] Тамсама. Арк. 23.
[26] Тамсама. Арк. 24.

дана абмеркаванне балета: «В связи с недостаточной воспитательной работой в Университете на некоторую часть студентов продолжают оказывать влияние "теории" эстетствующих формалистов в театральной критике, вскрытые в нашей партийной печати, о чем свидетельствуют выступления отдельных студентов на обсуждении постановки театра оперы и балета "Князь-озеро" (А. Шлык, Колпакчи Р.)»[27]. Спецыяльным пунктам рэзалюцыі з БДУ выгналі Л. Барага, але К. Хадзееў такога спецыяльнага пункту не заслужыў. Праўда, пяты пункт рэзалюцыі гучаў: «Университетской печати, в первую очередь газете "За сталинские кадры" [...] разоблачать всякое проявление безродного космополитизма и антипатриотизма в Университете»[28]. Праз два дні, 11 сакавіка 1949 г., універсітэцкая шматтыражка «За сталінскія кадры» надрукавала артыкулы І. Старобінца «Шкодная дзейнасць касмапалітаў», у якім аўтар напускаўся на Л. Барага ды І. Матвеенку, і П. Новікава «Падгалоскі эстэцтвуючых фармалістаў», прысвечаны К. Хадзееву, А. Шлыку і Р. Калпакчы. Апошні артыкул публікуецца ў дадзеным зборніку дакументаў. У гэтым самым нумары з'явіўся і рэдакцыйны артыкул «Факультэцкія камсамольскія сходы», у якім пераказваліся словы М. Галенкі пра даклад К. Хадзеева на факультэцкім сходзе філалагічнага факультэта 3 сакавіка.

А 18 сакавіка 1949 г. у газеце «За сталінскія кадры» была апублікаваная вялікая справаздача з партыйнага сходу 9 сакавіка. Словы В. Ліўшыца (у газеце ён называецца не Ліўшыцам, а Ліфшыцам) у варыянце шматтыражкі гучалі наступным чынам: «Падгалоскі эстэцтвуючых фармалістаў знайшлі сабе прытулак і сярод студэнцтва Універсітэта. Я маю на ўвазе сту-

[27] НАРБ. Ф. 205. Воп. 16. Спр. 17. Арк. 27.

[28] Тамсама. 17. Арк. 28.

дэнта філалагічнага факультэта Хадзеева, які ніколі не скрываў сваіх пагардлівых, зняважлівых адносін да лепшых твораў савецкай літаратуры і мастацтва. Хадзееў заўсёды імкнуўся прапагандаваць свае антыпатрыятычныя погляды сярод студэнтаў і павялічваць колькасць сваіх прыхільнікаў. Трэба сказаць, што ён іх знайшоў. Імі з'яўляюцца студэнты А. Шлык і Р. Калпакчы, якія на абмеркаванні балетнага спектакля "Князь-возера" разам з Хадзеевым у сваіх выступленнях паўтарылі погляды, варожыя нашаму савецкаму мастацтву»[29].

Загадам № 50 рэктара БДУ У. Тамашэвіча ад 11 сакавіка 1949 г. Кім Хадзееў быў адлічаны з 1 сакавіка з ліку студэнтаў філалагічнага факультэта «за сістэматычнае ненаведванне заняткаў»[30].

23 сакавіка адбыўся разгляд персанальнай справы А. Шлыка на партбюро БДУ (вытрымка з пратакола паседжання публікуецца ў дадзеным зборніку дакументаў), 30 сакавіка персанальную справу А. Шлыка разбіралі на ўніверсітэцкім партыйным сходзе. На абмеркаванні А. Качароўскі выказаўся наступным чынам: «Поведение тов. Шлыка на собрании не искреннее. Он старается ослабить свою ошибку. Как он, зная о статьях в "Правде" и "Культуре и жизни", мог сделать эстетско-формалистическое выступление? Он солидаризовался также с ошибочным докладом тов. Мазеля. Предлагаю вынести строгий выговор»[31]. Сход зацвердзіў рашэнне партбюро: вынесці вымову з занясеннем ва ўліковую картку.

---

[29] Касмапалітам не месца ў нашым Універсітэце! [Пра адкрыты сход партыйнай арганізацыі БДУ] // За сталінскія кадры. 1949. 18 сак., № 8 (31). С. 1.

[30] НАРБ. Ф. 205. Воп. 6. Спр. 32. Арк. 105.

[31] Тамсама. Воп. 16. Спр. 17. Арк. 37. (Пратаколы партыйных сходаў БДУ за 1949 г.)

На жаль, гістарычная памяць у Мінску мала таго што кароткая, дык яшчэ даволі партыкулярная: кожная групка па інтарэсах памятае толькі «сваіх». Так, сябры Кіма Хадзеева або не ведаюць, або не хочуць згадваць пра яго сяброўства з А. Шлыком. А родныя А. Шлыка, у сваю чаргу, не памятаюць, што не адзін А. Шлык меў непрыемнасці за выступ на абмеркаванні «Князь-возера»: «Обсуждение проходило не слишком активно, и среди обычных коротких хвалебных отзывов резко выделился отзыв студента Шлыка. Наряду с положительной оценкой балета, он позволил себе сделать замечание, что “балет шибко революционизирован”. […] Из-за этого выступления Шлыка причислили к космополитам и эстетам, и он получил выговор по партийной линии»[32].

Справа з выключэннем Хадзеева была ўзнята ў наступным навучальным годзе на справаздачна-выбарчым сходзе камсамольскай арганізацыі філалагічнага факультэта БДУ 6 кастрычніка 1949 г. у справаздачным дакладзе ўжо знаёмага нам сакратара камсамольскага бюро філфака А. Качароўскага: «Некоторые научные руководители кружков формально относились к своим обязанностям, и такое отношение часто приводило к печальным последствиям. Так получилось, что формалистический доклад бывшего студента Хадеева был вынесен на студенческую конференцию. Доклад этот был подвергнут резкой критике со стороны преподавателей и студентов, однако руководитель кружка тов. Базыленко протащила доклад на конференцию»[33].

---

[32] Шлык Валерия, Шлык Владимир, Шлык Мария. Студенческие годы Александра Аркадьевича Шлыка // Люди белорусской науки. Минск, 2008. Вып. 2. С. 367.

[33] НАРБ. Ф. 205. Воп. 18. Спр. 7. Арк. 11. (Пратаколы справаздачна-выбарчых сходаў факультэцкіх камсамольскіх арганізацый БДУ, 26 верас. — 8 кастр. 1949 г.)

І далей: «Комсомольцы факультета разоблачили некоего студента Хадеева. Хадеев в своих высказываниях и докладе, ошибочно представленном на научную студенческую конференцию, охаивал советских писателей, умалял значение русской и советской литературы. Около двух лет он числился студентом нашего факультета, не посещал занятия, не принимал никакого участия в общественной жизни университета. Только притуплением бдительности наших комсомольцев и общественных организаций можно объяснить тот факт, что он числился студентом факультета. По требованию студенчества Хадеев был отчислен из университета. После всего этого на курсах были проведены собрания и беседы, где разъяснялись решения партийных собраний»[34].

Адна з тагачасных студэнтак філфака так узгадвала пра Качароўскага:

«*В. А.*: У нас был такой Кочаровский. Он был секретарём комсомольской организации […] факультета. И он у нас завёл в университете такой военный коммунизм. Он ходил в галифе, он всех чуть ли не готов был строить. И чуть что — всё так громко, всё так решительно.

*І. К.*: А он не партизаном был, нет?

*В. А.*: Нет! Он был молодым парнем»[35].

Імя Хадзеева згадвалася яшчэ раз на ІІІ камсамольскай канферэнцыі ўніверсітэта ў справаздачным дакладзе аб працы камітэта ЛКСМБ БДУ, зробленым сакратаром камітэта, аспірантам Аляксандрам

---

[34] НАРБ. Ф. 205. Воп. 18. Спр. 7. Арк. 15–16.

[35] Беларускі архіў вуснай гісторыі (БАВГ). Фондаўтваральнік Кашталян Ірына. Калекцыя «Штодзённасць беларускага грамадства 1944–1953 гг.». Рэспандэнт Валянціна А., 1930 г. н. Аўдыёінтэрв'ю, ч. 2. 28 лют. 2009 г., Мінск. Архіўны шыфр: 2(2)-54-138. Качароўскі быў ветэранам вайны.

Вашкевічам: «Некоторые руководители научных студенческих кружков формально относились к своим обязанностям, и это приводит к печальным последствиям. Так получилось с формалистическим докладом бывшего студента Хадеева, который был раскритикован студентами и преподавателями. И несмотря на это был протащен научным руководителем тов. Базыленко на конференцию»[36]. І ў іншым месцы: «Комитет комсомола и бюро филологического факультета недостаточно уделяли внимания работе среди несоюзной молодежи. Только этим можно объяснить тот факт, что в университете более двух лет числился студентом и получал стипендию некий Хадеев, который не работал ни в одной общественной организации, не являлся членом их, не посещал занятия. В результате этого он пал так низко, что потерял моральные качества, присущие советскому человеку»[37]. Такім чынам мы даведваемся, што Кім Хадзееў ва ўніверсітэцкія гады нават не лічыўся чальцом камсамола, роўна як і іншых «грамадскіх арганізацый». Далей у дакладзе згадваліся «Князь-возера», А. Шлык і Р. Калпакчы, але ўжо без сувязі з Хадзеевым: «Были прослушаны и обсуждены: опера “Дубровский” и балет “Князь-озеро” в постановке театра оперы и балета. Надо отметить, что обсуждение оперы и балета плохо готовились и в результате были допущены явно формалистические выступления студентами университета Шлыком и Колпакчи»[38].

Такім чынам, у даступных нам архіўных дакументах няма пацвярджэння словам Кіма Хадзеева, што ён зрабіў на адным з факультэцкіх сходаў антысталін-

[36] НАРБ. Ф. 205. Воп. 18. Спр. 4. Арк. 21. (Пратакол III камсамольскай канферэнцыі БДУ. 16 кастр. 1949 г.)

[37] Тамсама. Арк. 35.

[38] Тамсама. Арк. 42.

скія выказванні. Гэта зусім не значыць, што такіх выказванняў не было. Архіўныя дакументы праходзяць праз шматслойнае сіта самацэнзуры і цэнзуры, цытаваць антыўрадавыя выказванні ў несакрэтных дакументах не было прынята. Але такія выказванні не запомніліся іншым выпускнікам філфака, якія вучыліся ў БДУ ў канцы 1940-х, што дзіўна.

Не дадае больш пэўнасці і даведка з базы дадзеных Міжнароднага Мемарыялу, дзе ўтрымліваецца выпіска з уліковай карткі Ленінградскай спецыяльнай псіхіятрычнай бальніцы на К. Хадзеева. Згодна з ёй, наш герой быў арыштаваны 5-м упраўленнем МДБ БССР (увага!) 6 лютага 1951 г. На час арышту пражываў ён па сваім адрасе ад нараджэння (г. Мінск, вул. Энгельса, д. 50, кв. 11). У графе «Место работы, должность, специальность» стаіць «БОЗ» (без пэўных заняткаў). Артыкул 72 КК БССР (антысавецкая агітацыя), нумар справы: 2261/156 арх. 5. Прыбыў К. Хадзееў у спецпсіхбальніцу з турмы № 1 УМУС г. Мінска. Картка ў турэмнай псіхбальніцы была складзена 20 верасня 1951 г., што прыкладна адпавядае часу прыбыцця. 15 лютага 1954 г. ён быў вызвалены ад прымусовага лячэння паводле прысуду Мінскага абласнога суда ад 30 студзеня 1954 г. і перададзены на парукі свайму бацьку.

Калі верыць гэтай уліковай картцы, то ані ў якім Уладзімірскім цэнтрале (распаўсюджаная легенда) Хадзееў не быў (этап з Мінска ў Ленінград мог ісці праз Маскву, але, даруйце, не праз Уладзімір). І зусім незразумела, што МДБ БССР рабіла цягам амаль двух гадоў паміж выключэннем К. Хадзеева з універсітэта і яго арыштам. Пра гэта, як і пра тое, у чым менавіта заключалася «антысавецкая агітацыя», якую дазваляў сабе К. Хадзееў, мы зможам даведацца толькі з яго крымінальнай справы, якая мусіць захоўвацца ў архівах КДБ Беларусі.

**Галоўны «касмапаліт» БДУ**

Тут варта даць троху больш шырокі фон для справы з абмеркаваннем «Князь-возера». Адначасова, літаральна на тых самых сходах, на якіх бэсцілі (за вочы) Кіма Хадзеева, бэсцілі (у прысутнасці «вінаватага») і Льва Барага. Ураджэнец Кіева і выпускнік Маскоўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, Леў Рыгоравіч Бараг (1911–1994) пасля абароны дысертацыі на атрыманне ступені кандыдата філалагічных навук (1938) працаваў у Мінскім педагагічным інстытуце. У вайну ён здолеў эвакуіравацца, а з 1943 г. працаваў дацэнтам БДУ (у той год БДУ аднавіў працу на станцыі Сходня пад Масквой). Леў Бараг быў фалькларыстам, адпаведна, у Беларусі ён займаўся вывучэннем беларускага фальклору. Бараг працаваў на кафедры рускай літаратуры, загадчыкам якой у 1947 г.[39] стаў Іван Васілевіч Гутараў (1906–1967), на той час — кандыдат філалагічных навук. Гутараў адначасова займаў у ЦК КП(б)Б пасаду загадчыка аддзела літаратуры і мастацтва ўпраўлення прапаганды і агітацыі. Паводле Уладзіміра Мехава, Гутараў быў прысланы ў Мінск з Масквы з накіраваннем А. Жданава[40]. А ў Маскве ён не толькі вучыўся ў дактарантуры пры Інстытуце сусветнай літаратуры, але і быў сакратаром партбюро СП СССР.

Бараг, як «занадта разумны», надта ўжо муляў вока Гутараву. 24 красавіка 1948 г. у «Літаратуры і мастацтве» з’явіўся артыкул «Касмапаліты з філалагічнага факультэта», падпісаны І. Айвазавым і М. Нікалаевым. Як указаў Уладзімір Мехаў, Айвазаў — гэта псеўданім Гутарава, а Нікалаеў — тагачаснага галоў-

[39] Упершыню Гутараў узначаліў гэтую кафедру ў 1939 г., але ў сярэдзіне 1940-х (да 1947) ён вучыўся ў дактарантуры ў Маскве.

[40] Мехаў У. Аблога // Полымя. 1991. № 3. С. 193.

нага рэдактара «ЛіМа» Мікалая Горцава[41]. Хаця ў назве артыкула і прысутнічала множнае «касмапаліты», прысвечаны ён быў аднаму чалавеку — Л. Барагу. Паколькі Л. Бараг займаўся кампаратывістыкай, шукаў у беларускіх казках уплывы з іншых рэгіёнаў, а да таго ж быў яўрэем, то ідэальна падыходзіў на ролю «касмапаліта». Да таго ж ён з павагай ставіўся (і не хаваў гэтага) да прац Аляксандра Весялоўскага, дарэвалюцыйнага расійскага фалькларыста, абранага мішэнню ў час ідэалагічных кампаній позняй сталіншчыны. Навуковыя працы Барага ў артыкуле змешваліся з граззю, ды і самога яго лаялі апошнімі словамі. Завяршаўся артыкул слаба замаскаваным заклікам звольніць яго з універсітэта.

Раней, 3 сакавіка 1948 г., «Литературная газета» змясціла нататку з Мінска «Совещание белорусских литературоведов и критиков» за подпісам «наш корр.». Імаверна, што калі Гутараў і не быў тым карэспандэнтам, то падказваў карэспандэнту, што пісаць. Нататка была сціслай справаздачай пра канферэнцыю кіраўнікоў кафедр сацыяльна-эканамічных дысцыплін, педагогікі і літаратуры ў Мінску, а таксама пра нараду крытыкаў, пісьменнікаў і літаратуразнаўцаў і ўдзельнікаў канферэнцыі аб праграмах па беларускай літаратуры для сярэдніх школ. Адзіным аб’ектам нападак у нататцы за «грубыя ідэалагічныя памылкі» і «дыскрэдытацыю народа і яго паэтычнай творчасці» быў Л. Бараг.

А 13 сакавіка 1948 г. у рэдакцыйным артыкуле «Літаратуры і мастацтва» «Узняць узровень крытыкі» пісалася: «Асобныя фалькларысты — Л. Бараг, М. Мееровіч — нядобрасумленна паставіліся да справы збірання і запісу фальклорнай творчасці. Яны выдавалі за высокамастацкія творы народа

[41] Механ У. Аблога. № 3. С. 195.

нізкапробныя і непісьменныя дрындушкі, складзеныя выпадковымі людзьмі. Гэтыя фалькларысты не маглі адрозніць сапраўдныя народныя творы ад падробак пад іх і запаўнялі свае запісы архаічнымі паданнямі, крыху прыстасаванымі да сучасных умоў». У тым жа нумары газеты быў змешчаны скарочаны варыянт даклада Міхася Клімковіча «Беларуская літаратурная крытыка за 1947 год», зробленага на рэспубліканскім сходзе пісьменнікаў. Адным з аўтараў, якіх крытыкаваў М. Клімковіч, быў Л. Бараг, якому дасталося за фармалізм і за… беларускі нацыяналізм. Праўда, лексіка Клімковіча была, як на тыя часы, звышкарэктная, без лаянкі і заклікаў «прыбраць» Барага.

На той час дацэнт Бараг яшчэ ўтрымаўся на сваім месцы. Але ненадоўга. Гутараву вельмі прыдаўся новы імпульс кампаніі па барацьбе з «касмапалітызмам», дадзены артыкуламі ў «Правде» і «Культуре и жизни» ў студзені 1949 г.

15–18 лютага 1949 г. адбыўся XIX з’езд КП(б) Беларусі, на якім са справаздачным дакладам выступіў першы сакратар ЦК КП(б)Б Мікалай Гусараў. Неўзабаве даклад быў апублікаваны. Адным сказам у ім згадваўся і наш герой: «У галіне літаратуразнаўства і літаратурнай крытыкі бязродны касмапалітызм знайшоў сваё выяўленне ў пісаніне Барага і Меерові́ч, якія абвясцілі, што беларускі фальклор ёсць не што іншае, як вынік самых разнастайных, перакрыжаваных заходне-еўрапейскіх уплываў, у тым ліку нават нарвежскіх і дацкіх»[42].

[42] Справаздача Цэнтральнага Камітэта КП(б) Беларусі (З даклада сакратара ЦК КП(б)Б тав. Н. І. Гусарава на XIX з’ездзе КП(б) Беларусі 15 лютага 1949 года) // Літаратура і мастацтва. 1949. 19 лют. С. 3. Марыя Самуілаўна Меерові́ч выкладала ў Мінскім педагагічным інстытуце і пісала дысертацыю па фальклоры. Яна

25 лютага 1949 г. на філалагічнай секцыі навуковай сесіі БДУ Леў Бараг чытаў даклад «Беларуская фантастычная казка і сацыяльная рэчаіснасць». На сесіі, сярод іншых студэнтаў, прысутнічаў Кім Хадзееў. Захавалася анатацыя даклада[43]. Былі ўсе падставы чакаць шальмавання навукоўца, але, як са скрухай заўважыў кіраўнік секцыі, загадчык кафедры рускай мовы і агульнага мовазнаўства Іван Шнітко: «Кафедра белорусской литературы не сочла нужным даже присутствовать на докладе. А члены кафедры русской и западно-европейской литературы не сочли нужным выступить по докладу. В результате доклад остался без обсуждения»[44]. Як бачна, філфакаўскія выкладчыкі не гарэлі жаданнем «выкрываць» калегу-«касмапаліта».

4 сакавіка ўніверсітэцкая шматтыражка «За сталінскія кадры» ў рэдакцыйным артыкуле «Па-большэвіцку выканаем рашэнні XIX з’езда КП(б)Б» паведаміла: «Калектыў Універсітэта нясе маральную адказнасць за тое, што яго навуковы супрацоўнік, дацэнт Л. Г. Бараг дапусціў у сваіх даследваннях беларускага фальклора праявы касмапалітызма, на што ўказаў у сваім дакладзе тав. Н. І. Гусараў»[45]. А ў артыкуле Паўла Кавалёва «Да канца разграміць бязродных касмапалітаў» Л. Барагу была адведзеная цэлая часопісная ста-

не толькі страціла працу ў выніку кампаніі 1949 г., але і больш чым на тыдзень затрымлівалася МДБ (паколькі М. Меровіч не агаварыла сябе, яе выпусцілі). Падрабязней гл.: Шульман А. Не потерять достоинства // Мишпоха. 2011. № 29. С. 88–95.

[43] НАРБ. Ф. 205. Воп. 6. Спр. 39. Арк. 28–29 адв. (Пратаколы паседжанняў кафедр філалагічнага факультэта БДУ за 1949 г.)

[44] Тамсама. Арк. 19.

[45] У адпаведнасці з тагачасным правапісам: «Л. Г. Бараг», а не «Л. Р. Бараг» і «Н. І. Гусараў», а не «М. І. Гусараў».

ронка (артыкул выйшаў у сакавіцкім нумары «Полымя»)[46].

Шальмаванне Л. Барага адбылося на апісаным вышэй адкрытым партыйным сходзе 9 сакавіка. Сход пачаўся дакладам Івана Чымбурга, які бэсціў Л. Барага са спасылкай на даклад М. Гусарава на з'ездзе партыі[47]. Далей на Барага напусціўся аспірант кафедры беларускай мовы і літаратуры Іван Кудраўцаў. Бараг спрабаваў апраўдвацца, казаць, што «перабудаваўся», «прызнаў свае памылкі». Абараніць Барага (і Івана Матвеенку, пра якога ніжэй) імкнуўся Давід Фактаровіч, загадчык кафедры замежнай літаратуры. Але марна. Дружнай зграяй на Л. Барага накінуліся: старшы выкладчык кафедры рускай літаратуры Раіса Паіна[48], прарэктар БДУ па навуковай працы Аляксей П'янкоў (на той час выконваў абавязкі рэктара), загадчык кафедры беларускай літаратуры Міхась Ларчанка[49], камсамольскі важак філфака Аркадзь Ка-

[46] Кавалёў, П. Да канца разграміць бязродных касмапалітаў // Полымя. 1949. № 3. С. 91–101. Пра Барага на с. 95. Артыкул быў перадрукаваны на рускай мове ў часопісе «Дружба народов» (№ 2. 1949).

[47] Даклад І. Чымбурга не адлюстраваны ў дакументах фонда 205 НАРБ, але азнаёміцца з яго прыкладным зместам можна ва ўніверсітэцкай шматтыражцы: Касмапалітам не месца ў нашым універсітэце! // За сталінскія кадры. 1949. 18 сак., № 8 (31). С. 1.

[48] Паводле аднадушнага прызнання тагачасных студэнтаў філфака (Валянціны А., Берты Кіштымавай, Уладзіміра Мехава), выкладчыца гэтая была бесталаннай. У 1962 г. яе злавілі на плагіяце, за што разбіралі на паседжанні кафедры і на партбюро філфака, але яна да апошняга хлусіла і спрабавала падманнымі спосабамі пазбегнуць адказнасці. Гл.: НАРБ. Ф. 205. Воп. 16. Спр. 225. Арк. 35–39. Паіна была вызвалена ад працы ў БДУ з 1 сакавіка 1963 г. па ўласнай заяве.

[49] Абвінавачаны ў 1948 г. у беларускім буржуазным нацыяналізме, Ларчанка, відаць, спадзяваўся «змыць» свой «грэх» перад партыяй агрэсіўнасцю супраць «касмапалітаў». Так ці іначай, а сябе ён не так адмыў, як запляміў.

чароўскі, выкладчык асноў марксізму-ленінізму Міхаіл Прахарэнка, аспірант Юрый Васільеў, загадчык кафедры марксізму-ленінізму Вячаслаў Мацко, дацэнт кафедры беларускай мовы Марыя Жыдовіч. У заключным слове І. Чымбург падсумаваў: «Выступление Барага — это выступление неразоружившегося космополита. Он хотел ввести партийное собрание в заблуждение. Его выступление — политическое двурушничество. Иезуитское выступление Факторовича и выступление Барага — это выступления отъявленных космополитов»[50]. Сярод іншага, сход пастанавіў: «Партийное собрание считает недопустимым пребывание доцента Барага в стенах Белгосуниверситета в качестве преподавателя литературы». А таксама: «Партийное собрание считает неправильным выступление тов. Факторовича, по существу прикрывавшим безродный космополитизм Барага и поручает партийному бюро Университета обсудить поведение тов. Факторовича»[51].

«Літаратура і мастацтва» аператыўна надрукавала рэпартаж са сходу. Пра Хадзеева ў артыкуле не было ані слова, затое Барагу была ўдзеленая асноўная ўвага[52].

Леў Бараг быў звольнены з 15 сакавіка 1949 г. загадам № 53 в. а. рэктара БДУ А. П’янкова ад 14 сакавіка 1949 г.[53] Лісток «За сталінскія кадры» яшчэ двойчы «прайшоўся» па ім: артыкулам І. Старобінца «Шкодная дзейнасць касмапалітаў» (нумар ад 11 сакавіка) і справаздачай з партыйнага сходу ўніверсітэта пад назвай «Касмапалітам не месца ў нашым універсітэце!» (18 сакавіка).

---

[50] НАРБ. Ф. 205. Воп. 16. Спр. 17. Арк. 25.

[51] Тамсама. Арк. 26.

[52] Ачысціць універсітэт ад касмапалітаў і іх падгалоскаў (На адкрытым партыйным сходзе ў Беларускім Дзяржаўным універсітэце імя В. І. Леніна) // Літаратура і мастацтва. 1949. 12 сак. С. 4.

[53] НАРБ. Ф. 205. Воп. 6. Спр. 32. Арк. 108.

Але нязгоду з рашэннем партыйнага начальства прадэманстравалі… студэнты. Валянцін Тарас, які паступіў на філфак у 1950 г, так пераказваў тое, што пачуў ад сваіх старэйшых сяброў (Алега Сурскага, Навума Кісліка, Алеся Адамовіча і Мікалая Крукоўскага): «Яшчэ ў 1949-м, калі выганялі Барага, група студэнтаў на чале з Кімам Хадзеевым і Разітай Калпакчы паднесьлі яму на вачах Гутарава і ягонай хэўры кветкі, абдымалі яго са сьлязьмі на вачох. І Хадзеева, і Разіту выключылі з камсамола, трымалі, што называецца, у чорным целе, але тыя і ад Саўсуна з Круцікавай не адвярнуліся і казалі ўсім, што гэта выдатныя навукоўцы і сумленныя людзі»[54]. Трэба сказаць, што В. Тарас не надта дакладны мемуарыст (напрыклад, ён з упэўненасцю сцвярджаў, што К. Хадзееў пазбег зняволення)[55]. Эпізод з паднашэннем кветак Льву Барагу пасля прачытання ім апошняй лекцыі дакладна меў месца, але малаверагодна, што ў ім удзельнічаў К. Хадзееў (на месцы Хадзеева было варта трымацца падалей і ад Барага, і ад былых калег па філфаку, каб не ўцягнуць іх у яшчэ большыя непрыемнасці). Не абавязкова брала ў гэтым удзел і Разіта Калпакчы, хаця апошняе і не выключана.

15 сакавіка адбыўся адкрыты партыйны сход філфака. З асноўным дакладам выступіў І. Гутараў (лішне казаць, каго ён лаяў). Можна здагадацца, якой была танальнасць «антыкасмапалітычных» выступаў Мікалая Арлова, Марыі Абярэмкавай, дэкана філфака Лукі Шашкова, Мікалая Галенкі ды іншых. Спрабаваў нешта тлумачыць Д. Фактаровіч,

---

[54] Тарас В. «Касмапаліты» БДУ // Антысавецкія рухі ў Беларусі, 1944–1956 : даведнік / пад рэд. А. Дзярновіча. Менск : Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999. С. 130–133.

[55] Тарас В. На высьпе ўспамінаў. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2007. С. 317.

які мусіў апраўдацца за выступ на партыйным сходзе ўніверсітэта[56].

17 сакавіка 1949 г. камітэт ЛКСМБ БДУ на сваім паседжанні выносіў пакаранні студэнткам філфака за апладысменты Льву Барагу. Так, студэнтка 1-га курса літаратурнага аддзялення Тамара Самойлава была выключана з камсамола за тое, што «явилась инициатором организации аплодисментов космополиту Барагу после окончания чтения последней лекции Барагом в университете»[57]. Строгія вымовы з занясеннем у асабовую справу за арганізацыю апладысментаў атрымалі студэнткі 1-га курса Скляр (літаратурнае аддзяленне), Ірына Астрамецкая і Валянціна Пятровіч (аддзяленне логікі), а студэнтка 1-га курса аддзялення логікі Разалія Шмідава атрымала вымову без занясення ў асабовую справу за тое, што «являясь группоргом 1 курса и зная о том, что студенты намерены вознагр[адить] космополита Барага аплодисментами, ничего не сделала для пред[от]вращения этого явления»[58].

Загадам № 60 в. а. рэктара БДУ А. П’янкова ад 23 сакавіка 1949 г. за «ненаведванне заняткаў без уважлівых прычын»[59] Разіта Калпакчы была знятая са стыпендыі, а Тамара Самойлава і шэраг іншых студэнтак 1-га і 2-га курсаў філалагічнага факультэта атрымалі вымовы. Гэтым самым загадам Разіта Калпакчы была вызваленая ад абавязкаў старасты 1-га курса.

Сакратар камсамольскага бюро філалагічнага факультэта А. Качароўскі на справаздачна-выбарчым сходзе камсамольскай арганізацыі факультэта 6 ка-

56 Партыйны сход філфака // За сталінскія кадры. 1949. 18 сак., № 8 (31). С. 2.

57 НАРБ. Ф. 205. Воп. 18. Спр. 5. Арк. 26. (Планы работ і пратаколы паседжанняў камітэта камсамола БДУ за 1949 г.)

58 Тамсама. Арк. 26–27.

59 Тамсама. Воп. 6. Спр. 32. Арк. 118. У тэксце загада менавіта так; загады па БДУ ў той час выдаваліся па-беларуску.

стрычніка 1949 г. скардзіўся: «Буржуазные космополиты пытались отравить сознание студентов нашего факультета. На кафедре русской литературы долгое время подвизался безродный космополит Бараг. В докладе на XIX съезде КП(б)Б товарищ Гусаров упомянул о вредных писаниях Барага. Казалось бы, студенты университета поймут серьезность вопроса, поднятого на съезде. И хотя большинство студентов по-партийному восприняло слова товарища Гусарова, нашлись такие, которые аплодировали раскритикованному докладу Барага на научной конференции. Комсомольское бюро не сделало должных выводов из этих выступлений и своевременно не провело соответствующей разъяснительной работы, особенно среди студентов первых курсов. И не случайно, уже после полного разоблачения на партийном собрании деятельности Барага, комсомолки первых курсов отделения логики и литературного Скляр и Самойлова, зная решение партийного собрания, обратились к Барагу с благодарственными речами, при одобрении студентов этих курсов. При обсуждении на комсомольском собрании, студенты-первокурсники заняли неправильную политику круговой поруки. Комсомольская организация осудила поведение этих студентов. Самойлова была исключена из рядов ВЛКСМ, Скляр поняла свою ошибку и ей был объявлен строгий выговор»[60].

Валянціна Пятроўна А., у 1949 г. — студэнтка аддзялення журналістыкі філфака БДУ, так узгадвала пра гэтыя падзеі ў інтэрв'ю гісторыку Ірыне Кашталян: «И вот был у нас Бараг. Этот человек — божьей милостью преподаватель. Он преподавал древнерусскую литературу, [а затым быў выжыты

[60] НАРБ. Ф. 205. Воп. 18. Спр. 7. Арк. 14–15.

Гутаравым з БДУ]. […] Я помню, была такая история. Вот когда Бараг читал последнюю лекцию, и мы знали, что всё, он кончает курс, и больше не будет. И ему преподнесла девочка-студентка, забыла её фамилию, Тамара по-моему её зовут, большой букет цветов. Ну, мы действительно никогда не слышали ничего лучше. Это лучший преподаватель, который был у нас за все годы в университете. И, устроили по этому поводу комсомольское собрание. На комсомольском собрании эту девочку выгнали из комсомола, потом пошло это дальше, партийное собрание»[61].

Пакінула ўспаміны пра гэтыя падзеі і сама Тамара Бурэйка (у дзявоцтве — Самойлава). З іх вынікае, што, калі Л. Бараг дачытваў на філфаку курс старажытнай літаратуры XI–XIII стст., яна «была камсоргам групы і адчувала патрэбу не толькі падзякаваць яму за цікавыя лекцыі, выказаць свае адносіны да артыкулаў настаўніка. Група мяне падтрымала апладысментамі. Але ўжо на перапынку мяне паклікалі да парторга ўніверсітэта Арлова і далі зразумець, што маё выступленне накіравана супраць рашэння партбюро. Тэрмінова быў скліканы камсамольскі сход першага курса філфака, на якім было прынятае рашэнне выключыць мяне з камсамола і прасіць кіраўніцтва ўніверсітэта выключыць з ліку студэнтаў. Было прапанавана галасаваць за гэтую прапанову. Большасць камсамольцаў курса выступіла супраць мяне, але да гонару студэнтаў нашай, беларускай, групы яны галасавалі супраць такога несправядлівага рашэння. […] Я была вельмі ўдзячна сваім аднакурснікам за падтрымку, якая выратавала мяне. Маім абаронцам выступіў і пра-

[61] БАВГ. Архіўны шыфр : 2(2)-54-138.

фесар І. В. Гутараў, ён сказаў, што не дасць мяне ў крыўду, не дазволіць ламаць лёс чалавека»[62].

У спіну Л. Барагу са старонак беларускіх выданняў працягвалі ляцець праклёны: 2 красавіка 1949 г. «Літаратура і мастацтва» надрукавала артыкул Івана Кудраўцава «Касмапаліты і іх падгалоскі» (артыкул амаль цалкам прысвечаны Л. Барагу, «падгалосак» — гэта Д. Фактаровіч), а ў красавіцкім нумары «Полымя» за 1949 г. з'явіўся твор Георгія Шчарбатава «На пазіцыях бязроднага касмапалітызма»[63] (Л. Бараг у ім — толькі адзін з «антыгерояў»).

Леў Бараг яшчэ два гады не мог знайсці сабе працу, пакуль не ўладкаваўся ў Башкірскі педагагічны інстытут ва Уфе (з 1957 г. — Башкірскі дзяржаўны ўніверсітэт), дзе і працаваў да канца сваёй навуковай кар'еры. Ён працягваў займацца ў тым ліку і беларускім фальклорам. У Мінску ў 1969 г. выйшла яго кніга «Беларуская казка. Пытанні вывучэння яе нацыянальнай самабытнасці параўнальна з іншымі ўсходнеславянскімі казкамі», а ў 1978 г. — сістэматычны паказальнік «Сюжэты і матывы беларускіх народных казак»; апрача таго, Л. Бараг займаўся і публікатарскай дзейнасцю.

## БДУ ў часы позняга сталінізму

Пад шумок «барацьбы з касмапалітызмам» Гутараў ды іншыя сталіністы звольнілі з БДУ яшчэ некалькіх выбітных спецыялістаў. Так, з даваенных часоў працаваў у БДУ на кафедры рускай літаратуры прафесар Барыс Уладзіміравіч Нейман (пасля таго,

[62] Бурэйка (Самойлава) Т. Наша студэнцкае сяброўства // Наша слова. 2008. 20 лют., № 8 (847). С. 6.

[63] Шчарбатаў Г. На пазіцыях бязроднага касмапалітызма // Полымя. 1949. № 4. С. 126–130.

як большая частка мінскай гуманітарнай інтэлігенцыі была або адпраўлена ў ГУЛАГ, або расстраляна ў 1937–38 гг., з’явілася патрэба зноў, як у пачатку 1920-х, прывозіць выкладчыкаў з Масквы). Нейман, народжаны ў 1888 г., пачаў публікаваць працы па рускай літаратуры XIX ст. яшчэ да Першай сусветнай вайны. У 1949 г. ён перастаў працаваць у Беларусі. І. Гутараў абвінавачваў Б. Неймана, у прыватнасці, у тым, што той пасмеў указаць на ўплыў раманаў Вальтэра Скота на «Капітанскую дачку» Пушкіна (у 1949 г. даследаванне такога ўплыву называлася «ўра-касмапалітызмам і пагромам рускай літаратуры»). Таксама Б. Нейман быў «вінаваты» ў тым, што кіраваў аспірантамі і выступаў апанентам кандыдацкіх дысертацый «у няслушным кірунку». Гутараў пісаў: «У выніку такога “навуковага” кіраўніцтва былі выпадкі штучнай фабрыкацыі кандыдатаў навук па беларускай літаратуры за нізкапробныя і апалітычныя сачыніцельствы. У канцы 1947 г. Інстытут літаратуры, мовы і мастацтва АН БССР прысвоіў ступень кандыдата навук па гісторыі беларускай літаратуры тав. Перкіну за вельмі слабую работу, якая мае рад істотных палітычных памылак. Тав. Перкін прысвяціў сваю дысертацыю трэцціступенным прадстаўнікам польска-шляхецкай культуры Яну Чачоту і Яну Баршчэўскаму, якіх паказваў ледзь ні карыфеямі беларускай літаратуры XIX стагоддзя і гэтым самым узняў польска-шляхецкі напрамак у беларускай літаратуры[64]. […] 2 студзеня 1948 г. пры тым-жа інстытуце адбылася абарона дысертацыі тав. Бас на тэму: “Буралескныя паэмы”, “Энеіда навыварат”, “Тарас на Парнасе” і “Нядзеля Хрыстова і сашэсце яго ў пекла”, якія стаяць у вытокаў

[64] Навум Перкін вымушаны быў абараніць іншую кандыдацкую дысертацыю («Творчасць Аркадзя Куляшова», 1950); аўтарэферат яго дысертацыі 1947 г. адсутнічае ў каталогах бібліятэк Беларусі.

беларускай літаратуры[65]. Гэта "праблема" таксама ніяк не можа служыць аб'ектам навукова-даследчай работы савецкага вучонага ў першую пасляваенную сталінскую пяцігодку. Тут у наяўнасці захапленне старыной, ідэалізацыя буржуазна-дваранскага мінулага і поўны адрыў ад савецкай сучаснасці так як усё выкладанне будавалася на паралелях к захаду. Да такіх вынікаў прывяло нашых маладых навуковых работнікаў кіраўніцтва Неймана»[66].

Была звольненая з БДУ ў 1949 г. Марыя Іванаўна Карнеева-Петрулан, кандыдат філалагічных навук, славістка з дарэвалюцыйным навуковым стажам і з міжнародным імем, якая нават у змрочныя 1930-я публікавалася ў пражскім навуковым часопісе «Slavia». Як і Нейман, яна пачала працаваць у БДУ перад вайной; у 1948/49 навучальным годзе займала пасаду дацэнта на кафедры рускай мовы і агульнага мовазнаўства. Праўда, на яе нападалі не так злобна, як на яўрэяў-«касмапалітаў», але ж вінавацілі ў ідэалагічных «грахах». На партыйным сходзе БДУ 24 лістапада 1948 г. І. Матвеенка заявіў: «У нас имеется в Университете доцент Корнеева-Петрулан. Лекции ею читаются очень плохо. Я как секретарь парторганиза-

[65] Ісідар Бас вымушаны быў пераабараняць сваю дысертацыю ў 1954 г., пакінуўшы па-за яе межамі трэцюю з бурлескных паэм (дысертацыя 1947 г. насіла назву «Беларускія камічныя паэмы — "Энеіда навыварат", "Тарас на Парнасе", "Уваскрасенне Хрыстова і сашэсце яго ў пекла"», 1954 г. — «Ля вытокаў рэалізма беларускай літаратуры XIX ст. ("Энеіда навыварат", "Тарас на Парнасе")»). 30 сакавіка 1949 г. на партыйным сходзе БДУ Д. Фактаровіч вымушаны быў абвяргаць абсурднае абвінавачванне, быццам бы не зацверджаную ВАК дысертацыю І. Баса «писали Факторович и Бараг» (НАРБ. Ф. 205. Воп. 16. Спр. 17. Арк. 34).

[66] Гутараў І. Супраць космапалітызма ў літаратурнай крытыцы, літаратуразнаўстве і фальклarystыцы БССР // Весці АН БССР. 1949. № 3. С. 38. Асаблівасці мовы артыкула пры цытаванні захаваны.

ции филфака неоднократно говорил об этом ректору, но получал указания не трогать ее. Она в присутствии студентов каждому коммунисту дает оценку. Ее лекции представляют бред, сумбур. Ректорат и партбюро не серьезно занялось этим вопросом»[67]. 23 снежня на паседжанні партбюро БДУ аспірант Давыд Мельцэр прапанаваў не адкладаць «пытанне Карнеевай-Петрулан»: «На партсобрании был недавно поднят вопрос о преподавании тов. Корнеевой-Петрулан, которая протягивает идеалистические концепции. Партбюро и учебная часть должны поставить этот вопрос на высоту и окончательно решить вопрос о пребывании ее в Университете»[68].

«Прайшоўся» Гутараў у кампанію 1949 г. і па Васілю Рыгоравічу Саўсуне, старшым выкладчыку кафедры рускай літаратуры. Праўда, звольніць яго змог далёка не адразу. Па-першае, нацыянальнасць у таго была недастаткова «касмапалітычная» — украінец. Па-другое, звольніць адначасова палову кафедры было немагчыма — не было б каму чытаць курсы. Васіль Саўсун яшчэ працаваў у БДУ некалькі гадоў. Гутараў пісаў: «Праяўленні касмапалітызма ў адносінах да філасофскай спадчыны рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў, спалучаемых з нізкапаклонствам перад захадам, мелі месца і ў нашай рэспубліцы. У лекцыі сапраўднага члена Таварыства па распаўсюджанню палітычных і навуковых ведаў В. Саўсуна аб Белінскім былі дапушчаны скажэнні, прыніжаючыя Белінскага як мысліцеля. Лектар дагаварыўся да таго, што аб'явіў Белінскага прыхільнікам саліпсізма, хоць і не на працяглы час. У лекцыі не паказваліся перавагі матэрыялістычных поглядаў і дыялектыкі Белінскага над заходне-еўрапейскімі буржуазнымі

[67] НАРБ. Ф. 205. Воп. 16. Спр. 13. Арк. 101.

[68] Тамсама. Арк. 100.

філосафамі»[69]. Васіль Саўсун у 1920-я гг. скончыў аспірантуру Маскоўскага ўніверсітэта. У 1928 г. ён выступіў адным з аўтараў праграмнага зборніка артыкулаў «Литературоведение» пад рэдакцыяй аднаго з вядучых літаратуразнаўцаў СССР таго часу, прафесара Маскоўскага ўніверсітэта Валяр'яна Пераверзева. Хаця Пераверзеў быў марксістам і базіраваў сваю тэорыю літаратуры на творах Георгія Пляханава, яго школа была разгромлена ў ідэалагічных дыскусіях канца 1920-х — пачатку 1930-х гг. як недастаткова партыйная. У 1938 г. Пераверзеў быў асуджаны на 10 год лагераў, дасталася і яго вучням. В. Саўсун з 1935 па 1947 г. працаваў у Сяміпалацінскім педагагічным інстытуце (да 1935 г. інстытут быў настаўніцкім; былыя студэнты БДУ былі ўпэўненыя, што ў Сяміпалацінску Саўсун быў у ссылцы). У БДУ В. Саўсун працаваў з 1947 па 1952 г. Як і ў выпадку з іншымі выкладчыкамі, якіх выжыў з БДУ Гутараў, былыя студэнты пра Саўсуна распавядалі і пісалі як пра вельмі добрага спецыяліста[70].

Кампанія па барацьбе з «бязродным касмапалітызмам» была не адзінай ідэалагічнай кампаніяй, якая страсала ВНУ СССР, у тым ліку і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, у познія сталінскія гады. 1948/49 навучальны год пачаўся пад знакам выканання рашэнняў жнівеньскай (1948 г.) сесіі Усесаюзнай акадэміі сельскагаспадарчых навук імя У. І. Леніна (ВАСХНИЛ), на якой Трафім Лысенка (з ведама і пры падтрымцы Сталіна) разграміў сваіх апанентаў-генетыкаў. З-за лысенкаўшчыны ў БДУ былі вызвалены ад выкладання прафесар кафедры заалогіі беспазванковых Георгій Вінберг і дацэнт Аляксей Варанцоў, знятая з паса-

[69] Ільюшын І., Гутараў І. За большэвіцкую партыйнасць у барацьбе супроць касмапалітызма // Большэвік Беларусі. 1949. № 4. С. 50.

[70] Гл., напр.: Тарас В. На высьпе ўспамінаў. С. 318.

ды дэкана біялагічнага факультэта Вольга Акімава[71] (праўда, прафесар Вінберг праз два гады вярнуўся на пасаду загадчыка кафедры).

А ў 1950 г. у выніку перабудовы выкладання мовазнаўства ў святле працы І. Сталіна «Марксізм і пытанні мовазнаўства» ці то быў звольнены, ці то вымушаны быў звольніцца дацэнт кафедры рускай мовы і агульнага мовазнаўства Іван Кузьміч Матвеенка, 1899 г. нар., кандыдат філалагічных навук (1947), які працаваў у БДУ з 1947 па 1950 г.[72] Іронія сітуацыі была ў тым, што Матвеенка быў прававерным сталіністам і чытаў курс мовазнаўства, як і было палажана да выхаду названай працы таварыша Сталіна, паводле Мара. Раней Матвеенку разносілі і ў час «антыкасмапаліцкай» кампаніі, на тых самых сходах, што і Барага з Хадзеевым, але не звольнілі, пакольні: а) разносілі ні за што; б) ён не быў яўрэем.

Вялася перманентная чыстка шэрагаў студэнтаў універсітэта ад тых, хто ў час акупацыі быў у СБМ ці нейкім іншым чынам «запляміў сябе». Так, у кастрычніку 1949 г. з камсамола выключылі студэнта філфака Івана Казачонка за тое, што ён «не по-комсомольски отзывался о советском искусстве»[73], дапускаў «восторженные высказывания о Зощенко» і аднекуль ведаў пра выкінутыя цэнзурай фразы з замежных фільмаў, што паказваліся ў СССР[74].

Нават без прыкрыцця шыльдай той ці іншай ідэа-

---

[71] НАРБ. Ф. 205. Воп. 6. Спр. 22. Арк. 188–190. (Загады № 108–285 па БДУ за 1948 г.); Тамсама. Воп. 16. Спр. 13. Арк. 140, 143; Яноўскі А., Зельскі А. Гісторыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў біяграфіях яго рэктараў. Мінск : БДУ, 2001. С. 99.

[72] НАРБ. Ф. 205. Воп. 10. Спр. 493. (Справа аб зацвярджэнні Івана Кузьміча Матвеенкі ў навуковым званні дацэнта); Тамсама. Воп. 6. Спр. 43. Арк. 232.

[73] Тамсама. Воп. 18. Спр. 5. Арк. 64.

[74] Тамсама. Спр. 6. Арк. 100–102.

лагічнай кампаніі звальнялі «в связи с сокращением объёма работы» некаторых выкладчыкаў-габрэяў ды ідэалагічна «варожых» выкладчыкаў або тых, хто па нейкіх прычынах быў палітычна нязручны кіраўніцтву. Так, старшы выкладчык кафедры ўсеагульнай літаратуры Навум Ісакавіч Лапідус быў звольнены загадам рэктара Івана Чымбурга № 185 ад 19 ліпеня 1950 г. (у загадзе яго назвалі па-пашпартнаму — Невахам Ісакавічам)[75]. Праз некалькі тыдняў быў выдадзены іншы загад, і Н. Лапідус застаўся працаваць на філфаку. Але не ўсім так шанцавала. 26 жніўня 1950 г. былі звольненыя выкладчыкі рускай мовы Хава Сямёнаўна Кроль і Яфім Давідавіч Штэйнберг[76].

Замест Б. Неймана і Л. Барага на кафедру рускай літаратуры былі прынятыя маладыя выкладчыкі Леанід Рэзнікаў і Людміла Круцікава. Але і гэтых дваіх Гутараў узненавідзеў як занадта разумных і таленавітых. Барацьбу з імі спрашчала тое, што Рэзнікаў быў «касмапалітам» паводле нацыянальнасці, а Круцікава знаходзілася ў час вайны на акупаванай тэрыторыі. У выніку доўгіх пазіцыйных баталій, з якіх Гутараў не выйшаў адназначным пераможцам, праз два гады абое звольніліся з БДУ і з’ехалі з Мінска[77].

Яшчэ пры жыцці Гутарава вынікі яго кіраўніцтва кафедрай былі публічна прызнаныя сумнымі: «ряд

---

[75] НАРБ. Ф. 205. Воп. 6. Спр. 43. Арк. 81. (Загады № 163–237 па БДУ за 1950 г.)

[76] Тамсама. Арк. 161. Пра Хаву Кроль і яе сям’ю гл. успаміны яе дачкі: Лурье Н. А. Воспоминания // Мое местечко (URL: http://shtetle.com/shtetls_minsk/minsk/lurie.html).

[77] Л. Круцікава мела дадатковую прычыну для выезду: яна хацела жыць разам са сваім будучым мужам, пісьменнікам Фёдарам Абрамавым. Пра два гады, праведзеныя ў Мінску, яна напісала ў сваіх мемуарах: Крутикова-Абрамова Л. В поисках истины: воспоминания и размышления о пережитом // Двина. 2011. № 1. С. 123–130; № 2. С. 242–250.

сложившихся научных работников, которые заявили о себе и в науке, и на педагогическом поприще, был, попросту говоря, изгнан с кафедры. Так покинули университет филологи В. Г. Совсун, Т. Н. Васильева, Л. В. Крутикова, Л. Я. Резников. В других вузах страны они получили полное признание». А пра яго працы напісалі: «путаные труды, получившие печальную славу»[78].

Кім Хадзееў быў не адзіным, хто трапіў у тыя гады з БДУ за краты. Як было адзначана ў справаздачным дакладзе сакратара партыйнага бюро БДУ Мікалая Арлова на партыйным сходзе БДУ 24 лістапада 1948 г., студэнт геафака Дамашкевіч быў арыштаваны і асуджаны трыбуналам за «контррэвалюцыйную агітацыю». Відаць па ўсім, ніякай агітацыі ён не праводзіў, а проста дапусціў у нейкіх абставінах неасцярожнае выказванне, бо студэнты факультэта спрабавалі пісаць у Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР калектыўную просьбу аб памілаванні Дамашкевіча (спроба была спынена да адсылкі ліста)[79]. На жаль, невядома, на які тэрмін быў асуджаны гэты студэнт і ці выжыў ён у сталінскіх лагерах.

А вось што распавяла гісторыку Ірыне Кашталян адна з тагачасных студэнтак філфака:

«В. А.: Когда я училась уже в Вешняках в комсомольской школе[80]. Ну, вот нам в уши впиливали всякую там ерунду. И мы как-то пошли обедать, в Москве там на седьмом мебельном какая-то столовая. И там какой-то сидел напротив парень, такой измождённый,

[78] Смирнова И. Кафедра в «круговой обороне» // Советская Белоруссия. 1960. 12 июня. С. 3.

[79] НАРБ. Ф. 205. Воп. 16. Спр. 13. Арк. 159.

[80] Цэнтральная камсамольская школа ў пасёлку Вешнякі пад Масквой была створана ў 1944 г. У 1960 г. Вешнякі ўвайшлі ў склад Масквы, у 1969 г. школа была пераўтворана ў Вышэйшую камсамольскую школу.

странный. Он так на нас смотрел, мы с Олегом[81] сидим. "Вы, — говорит, — из университета белорусского". Мы говорим: "Да". — "А Вы меня не помните?" И он рассказал, а мы этого не знали. Его арестовали, тоже в связи с этим космополитизмом и выслали... он где-то в Сибири был сколько-то лет.

І. К.: Как фамилия? Это студент был или преподаватель?

В. А.: Это был студент, но я не помню его фамилию. Он сказал, но мы так тогда удивились, мы не знали, что у нас такое было. Он не на нашем факультете. Наверно, там, где он учился, знали, а мы не знали, кто он такой. Но это было, в общем, для нас большим открытием.

І. К.: А в каком году Вы его увидели в Москве?

В. А.: В пятьдесят девятом»[82].

Цяжка сказаць, ці быў гэта Дамашкевіч, ці іншы студэнт. Больш поўную карціну мы маглі б скласці, калі б быў выкананы пункт пастановы Вярхоўнага Савета Беларусі ад 6 чэрвеня 1991 г. «Аб парадку рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій 20–80-х гадоў у Рэспубліцы Беларусь», згодна з якім прадугледжвалася публікацыя спісаў ахвяр рэпрэсій. На жаль, такая публікацыя была няпоўнай.

### «Лепшыя гады жыцця ў сэнсе зносінаў»

Прыкладна так ахарактарызаваў Кім Хадзееў гады, праведзеныя ім пад час першага зняволення ў Ленінградскай турэмнай псіхіятрычнай бальніцы (ЛТПБ), вядомай пазней як Ленінградская спецыяльная псіхіятрычная бальніца. ЛТПБ была афіцыйна створана ў 1951 г. у будынку былой жаночай турмы,

[81] Муж рэспандэнткі.

[82] БАВГ. Архіўны шыфр: 2(2)-54-138.

але першыя зняволеныя сталі паступаць у спецыяльна адведзены корпус ужо ў 1948 г. Рэжым псіхіятрычнай турмы быў нашмат больш мяккім, чым у лагерах ці іншых сталінскіх турмах. Катаванні (інсулінавыя шокі, унутрымышачныя ін'екцыі раствору ачышчанай серы, закручванне ў вільготныя прасціны, працяглае ўздзеянне снатворных) прымяняліся рэдка. Харчаванне было лепшым, чым у іншых турмах. Камеры ўдзень адчыняліся, і суседзі маглі бесперашкодна стасавацца. «Б/з/к» («хворыя»-зняволеныя) маглі працаваць у пераплётнай ці кравецкай майстэрнях, на ткацкім станку (зробленым адным са зняволеных), на кухні ці ўборцы двара, але маглі і зусім не працаваць. Зняволеныя маглі атрымліваць пасылкі, лісты, грашовыя пераводы, раз на 10 дзён — рабіць пакупкі ў ларку, два разы на месяц — дасылаць паштоўку родным[83].

У якую кампанію трапіў у псіхіятрычнай турме Кім Хадзееў? Трэба сказаць, у дастаткова добрую. На той час (пачатак 1950-х) ЛТПБ была прыкладна напалову напоўнена палітычнымі зняволенымі, і знайсці сабе сяброў для «палітычных» не было праблемай. Гэта пазней, у 1960-я і 1970-я, псіхіятрычныя турмы будуць выкарыстоўвацца для поўнай ізаляцыі палітвязняў ад сабе падобных.

У размове з Алегам Белавусавым Кім Хадзееў называе сярод сваіх сяброў па псіхіятрычнай турме Юрыя Айхенвальда (праўда, па нейкіх прычынах Айхенвальд у артыкуле «Тэатр у вар'ятні» не згадвае Хадзеева; магчыма, апошні не прымаў удзелу ў самадзейнасці, застаючыся ў тэатры гледачом). Юрый Айхенвальд (1928–1993) — маскоўскі паэт і перакладчык. Дзед Юрыя, літаратурны крытык і публіцыст Юлій Айхенвальд (1872–1928), быў у 1922 г.

[83] Подрабинек А. Карательная медицина. Нью-Йорк : Хроника, 1979. С. 27–32.

высланы з СССР на «філасофскім параходзе». Бацька, эканаміст Аляксандр Айхенвальд (1904–1941), з 1933 г. знаходзіўся ў зняволенні па палітычных абвінавачаннях і быў расстраляны пры адступленні савецкіх войскаў з Арла. Маці Юрыя Айхенвальда Яўгенія Сітнікава была арыштаваная ў 1938 г. і асуджаная асобай нарадай пры НКУС на 8 гадоў зняволення, пасля якога адбывала ссылку ў Карагандзе. Сам Юрый Айхенвальд, студэнт педагагічнага інстытута, у 1949 г. быў арыштаваны і сасланы з Масквы ў Караганду на 10 гадоў «за антысавецкія выказванні», а ў 1951 г. быў арыштаваны ў ссылцы «за тэрарыстычныя выказванні», пасля чаго і трапіў у Ленінградскую турэмную псіхіятрычную бальніцу. Пасля выхаду з бальніцы і рэабілітацыі ў 1955 г. Айхенвальд скончыў педагагічны інстытут і працаваў настаўнікам літаратуры ў школе, але ў 1968 г. быў звольнены за тое, што падпісаў ліст пратэсту супраць суда над Аляксандрам Гінзбургам і Юрыем Галанскавым. У далейшым ён стаў «вольным мастаком», працаваў як літаратурны і тэатральны крытык, перакладаў п’есы для тэатра, публікаваў вершы і прозу ў сам- і тамвыдаце.

Таксама Кім Хадзееў назваў сярод сяброў па няшчасці Аляксандра Асаркана (1930–2004), маскоўскага тэатральнага крытыка і літаратара, які ў пачатку 1980-х гг. эміграваў у ЗША. Асаркан трапіў у ЛТПБ пазней за Хадзеева і Айхенвальда: арыштаваны ён быў 1 лютага 1952 г. Абвінавачвалі яго, як і іншых, па артыкуле 58-10 КК РСФСР («антысавецкая агітацыя і прапаганда»). Выйшаў ён з ЛТПБ хутка, у 1953 г. Пасля выхаду з турмы Асаркан стаў вядомы не толькі апублікаванымі тэкстамі, але і ладам жыцця. Асаркан, майстар вуснага расказу (не апавядання, а менавіта расказу), ператварыў сваё жыццё ў своеасаблівы перфоманс. Многія маладыя прадстаўнікі маскоўскай

інтэлігенцыі 1960–70-х трапілі пад яго ўплыў як настаўніка (хаця Асаркан нібыта нічому і не вучыў). Таксама Асаркан вядомы сваімі паштоўкамі, якія дасылаў нават з Масквы ў Маскву сваім сябрам — удзельнікам дыялогу па пошце. Пазней, праўда, ён дасылаў іх ужо не з Масквы, а з Чыкага. Паштоўкі гэтыя былі гэтакім мэйл-артам, хаця і зусім не разлічаным на галерэйнае ці музейнае існаванне[84]. Адна позняя (канца 1990-х гг.) паштоўка Асаркана да Хадзеева была апублікавана ў каляровай уклейцы да кнігі ўспамінаў «Ким. Великий прохожий. Вероятные истории».

Аднаго чалавека Кім Хадзееў у размове з Алегам Белавусавым не згадаў, але яны дакладна пазнаёміліся і пасябравалі ў псіхіятрычнай турме. Гэта Павел Уліцін (1918–1986), расійскі авангардны пісьменнік. Упершыню Уліцін, тады студэнт маскоўскага Інстытута філасофіі, літаратуры і гісторыі, быў арыштаваны ў 1938 г., але праз 16 месяцаў выпушчаны на свабоду «па камісіі» (жорстка збіты на допытах, ён стаў інвалідам). Раннія творы Уліціна былі канфіскаваныя пасля арышту ў 1952 г. за спробу прайсці ў пасольства ЗША ў Маскве і ў вынікуператрусу ў яго дома 7 лютага 1962 г. Пазнейшыя творы хадзілі ў самвыдаце і фрагментарна публікаваліся ў тамвыдаце, але на радзіме сталі выходзіць у 1990-я ў часопісах і асобнымі кнігамі толькі з 2002 г. Творы Уліціна — своеасаблівы маналог свабоднымі асацыяцыямі, нястрыманы палёт думкі аўтара, у якім ён спасылаецца на падзеі ўласнага жыцця і згадвае асабіста знаёмых яму людзей, а таксама абапіраецца на вельмі шырокі пласт літара-

---

[84] Падрабязна пра гэтыя паштоўкі і пра самога Асаркана можна прачытаць у артыкуле Міхаіла Айзенберга «Открытки Асаркана», скарочаная версія якога пабачыла свет у часопісе «Знамя» (2005. № 11), а поўная ў дзевяці частках выйшла ў 2006 г. на сайце stengazeta.net.

туры (уключна з аўтарамі, забароненымі ў СССР, як Оруэл) і аперуе гістарычнымі асобамі і звязанымі з імі падзеямі. У сваіх творах (у тым ліку ў нядаўна апублікаванай кнізе «“Четыре кварка” и другие тексты») Уліцін не раз згадвае і сваіх знаёмых па Ленінградскай турэмнай псіхіятрычнай бальніцы, дзе ён правёў амаль тры гады (1952–1954). Шмат разоў згадваў Уліцін у сваіх творах і Хадзеева.

Іншых людзей з асяродку, у якім знаходзіўся ў псіхіятрычнай турме К. Хадзееў, можна ўявіць па артыкуле Ю. Айхенвальда «Тэатр у вар’ятні», які публікуецца ў дадзеным зборніку дакументаў.

## «Агітацыя і прапаганда» праз пасярэдніцтва самвыдата

Пра другую справу Хадзеева і звязаныя з ёй падзеі былі напісаны ўспаміны Марыянай Някрасавай[85], Сямёнам Букчыным[86], Сяргеем Ваганавым[87]. У інтэрв’ю распавёў пра справу і Эдуард Гарачы[88].

---

[85] Некрасова М. Татьянин день // Ким. Великий прохожий. Минск, 2019. С. 53–61.

[86] Букчин С. Записки побежденного. Минск : Зміцер Колас, 2016. С. 101–103, 297, 300. Гл. таксама: Букчин С. Жизнь как хохма и прикол. О романе Владимира Некляева «Автомат с газировкой с сиропом и без» // Букчин С. Кабаре на сцене и в жизни: Заметки на темы литературы, театра и кино. Санкт-Петербург : Невский простор, 2017. С. 107–122. Рэцэнзія ўпершыню апублікавана ў газеце «Народная воля» (2013. 12 сак.).

[87] Ваганаў С. Імя Мельцэрзона // Ваганаў С. Мосцік над вечнасцю : нарысы і эсэ. Смаленск : Інбелкульт, 2016. С. 166–169.

[88] Белохвостик Н. Актер Эдуард Горячий о Минске 60-х: «Мне повезло — посадили и все. А многих выгнали из комсомола» // Комсомольская правда в Белоруссии. 2013. 7 марта.

Пасля свайго вяртання ў Мінск з Ленінграда ў 1954 г. Кім Хадзееў завяршыў вышэйшую адукацыю і ў 1956 г. атрымаў дыплом па спецыяльнасці «Руская мова і літаратура». Праўда, зрабіў ён гэта не ва ўніверсітэце, а ў Мінскім педагагічным інстытуце імя Максіма Горкага. Былы аднакласнік Кіма Хадзеева, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Жарэс Алфёраў пісаў, што Хадзееў нават паступіў быў у аспірантуру і здаў кандыдацкія іспыты, але з аспірантуры быў адлічаны за тое, што «организовал кружок молодых людей — студентов и аспирантов университета и других вузов», які «регулярно собирался на своеобразные семинары для обсуждения политических проблем»[89]. У далейшым Хадзееў працаваў на розных працах. Апошняя яго пасада перад другім арыштам — інструктар аддзела кніжнага гандлю аблспажыўсаюза[90].

Ён не губляў сувязі з некаторымі людзьмі з тых, з кім пазнаёміўся ў зняволенні, абрастаў новымі маскоўскімі і ленінградскімі знаёмствамі. Але абрастаў і новымі знаёмствамі мінскімі. Так, на непрацяглы час у сярэдзіне 1950-х уваходзіў у кампанію Хадзеева Валянцін Тарас. Прычынай свайго аддалення ад Хадзеева Тарас назваў відавочную наяўнасць стукачоў у ягоным асяроддзі[91].

У пачатку 1960-х у кампанію Кіма Хадзеева ўваходзілі як прадстаўнікі «залатой моладзі» (сын пісьменніка Піліпа Пестрака Анатоль, сын дэкана тэатральнага факультэта тэатральна-мастацкага інстытута Піліпа Коблі Юрый), так і менш відныя па-

---

[89] Алфёров Ж. Наука и общество. Санкт-Петербург : Наука, 2005. С. 151.

[90] Гл. ілюстрацыйную ўклейку да кнігі: Ким. Великий прохожий.

[91] Тарас В. На высьпе ўспамінаў. С. 317.

ходжаннем, але таксама цікаўныя да непадцэнзурных размоў і кніг студэнты.

Крымінальная справа 1962 г. аб'яднала Уліціна, Асаркана і Хадзеева. Ці то сам Хадзееў, ці то хтосьці іншы па яго просьбе прывёз з Масквы ў Мінск кнігі Уліціна «Табу» і «Анти-Асаркан». Кнігі гэтыя цыркулявалі па Мінску з лёгкай рукі Хадзеева. Сярод іншых, чытаў іх сам і даваў пачытаць іншым акцёр тэатра юнага гледача Эдуард Гарачы. Што гэта былі за кнігі, мы можам уявіць, супаставіўшы апублікаваныя творы Уліціна гэтага перыяду[92] са змешчанымі ў дадзеным зборніку заключэннем і даведкай пракурора А. Бабенкі па справе Э. Гарачага.

25 студзеня 1962 г. быў затрыманы, а затым трапіў пад арышт Кім Хадзееў. У той самы дзень быў арыштаваны і Эдуард Гарачы. У Мінску былі дапытаныя многія сябры Хадзеева. А ў Маскве (са значнай затрымкай) па справе Хадзеева і Гарачага прайшлі вобшукі ў Паўла Уліціна (7 лютага) і Аляксандра Асаркана. Пры вобшуках былі забраныя творы Уліціна і лісты Хадзеева і Хадзееву, пры гэтым сам Уліцін не трапіў ані ў статус абвінавачанага, ані ў статус падазраванага. Парадокс у тым, што творы Уліціна былі прызнаныя «антысавецкімі», а сам Уліцін не хаваў, што перадаваў іншым людзям свае машынапісы — а гэта ўжо «распаўсюд» (адпаведна, Уліціну пагражаў артыкул 70 КК РСФСР «антысавецкая агітацыя і прапаганда»)[93].

---

[92] Адзіныя вядомыя творы Уліціна, напісаныя да вобшуку 1962 г., — «Хабаровский резидент (дайджест)» (URL: https://rvb.ru/ulitin/khabarovskiy_rezident/index.htm) і «Детективная история» (URL: https://rvb.ru/ulitin/detectiv/index.htm). Яны апублікаваныя толькі ў інтэрнэце. У «Детективной истории» Кім Хадзееў фігуруе некалькі разоў.

[93] Павел Уліцін сам задаваўся пытаннем, чаму яго не арыштавалі: «Один раз и вышла одиозная книга под названием «Табу», из-за которой пострадал наш общий друг. В разной степени это

Логіку кадэбістаў можна зразумець наступным чынам: у маскоўскіх працы і так хапала, і планавыя паказчыкі па раскрыцці дзейнасці антыўрадавых груп ды індывідаў яны выконвалі. На гэтым фоне адзін асобна ўзяты літаратар, які ціха займаўся стварэннем вельмі малатыражных машынапісаў, не быў той рыбай, якую трэба лавіць. А вось мінскім працы бракавала, таму з любой мухі паложана было раздзьмуць слана. Пакуль Хадзееў з Гарачым утрымліваліся ў следчым ізалятары, Уліцін не мог сядзець склаўшы рукі і чакаць арышту — ён працягваў пісаць. Крымінальная справа, якая навісала і над ім, знайшла непасрэднае адлюстраванне ў яго творах, напісаных у 1962 г. Вось, напрыклад, цытата з «Удара»:

«А если докажут, что эти два террориста занимались только чтением еще не опубликованных произведений, как ты думаешь, может, все еще о б о й д е т с я? Ой, хотя бы! Автор "Анти-Асаркана" распространял "Анти-Асаркана" только среди Асаркана. Асаркан распространял "Анти-Асаркана" только среди Хадеева. Хадеев распространял "Анти-Асаркана" только среди Горячего. Горячий распространял "Анти-Асаркана» только среди города Минска. […] Все письма у этого террориста работают не на расстрел, а на принуд. лечение»[94].

Справа 1962 г. моцна паўплывала на стыль Уліціна. Як пісаў ён сам па гарачых слядах, «с 7 февраля

---

коснулось всех. Один был в концертном лагере, другой в псих. больнице. А почему не арестовали автора? Вот и я то же спрашивал. Мне ответили: решения не было. Не было решения. Пока» (Улитин П. «Четыре кварка» и другие тексты. Москва : Новое литературное обозрение, 2018. С. 49).

[94] Улитин П. «Четыре кварка» и другие тексты. С. 313. Аркуш датаваны 14 лютага 1962 г. «Удар» — на с. 310–318. Гл. таксама «Печать № 5» (с. 319–332), с. 469 ды іншыя месцы кнігі.

1962 года в творчестве Юл. Айтна[95] начинается новый этап: писать так, чтобы не было возможностей для идентификации»[96]. І сапраўды, у далейшым проза Уліціна яшчэ больш напаўняецца паўнамёкамі, зразумелымі вельмі вузкаму колу, а любыя выразы, якія можна было б кваліфікаваць як «антысавецкія», з яе выпараюцца: «Я и слов-то таких не употребляю на своей машинке: “сталинские преступления”, “этический знак эпохи”. Впрочем, мне тоже пришлось отказаться от таких слов, как “комедия всенародного голосования”, например»[97].

Тут, раз ужо з’явілася слова «тэрарысты», варта прывесці звесткі з другой уліковай карткі ЛСПБ да Кіма Хадзеева. Адрас месца жыхарства: Мінск, вул. Энгельса, 32а, кв. 11. Месца працы, пасада: Мінскі аблспажыўсаюз, ст. інструктар. Нацыянальнасць: рускі. Партыйнасць: [пропуск]. Арыштаваны 25.01.62. Артыкул КК: «67 ч. 1 — террористич. акт». Орган, якім арыштаваны: сл[едчы] аддзел КДБ пры СМ БССР. Нумар справы: 266 арх. 1. Картка складзена ў СПБ г. Ленінграда 29.05.62. Прыбыў са следчага ізалятара КДБ г. Мінска. Вызвалены ад прымусовага «лячэння» 8 ліпеня 1963 г. згодна з прысудам Мінскага абласнога суда ад 25 чэрвеня 1963 г.

У Крымінальным кодэксе БССР 1960 г. артыкул 67 — гэта «антысавецкая агітацыя і прапаганда» («тэрарыстычны акт» — артыкул 63). Праўда, у Крымінальным кодэксе РСФСР 1960 г. артыкул 67 — «террористический акт против представителя иностранного государства». Намёкі Уліціна і ўліковая картка (калі толькі ў яе не закралася памылка) ускосна пацвярджаюць распаўсюджаную легенду, што спачат-

[95] Псеўданім Уліціна.

[96] Улитин П. «Четыре кварка» и другие тексты. С. 313.

[97] Тамсама. С. 22.

ку Хадзеева спрабавалі «раскруціць» на прызнанні аб «тэрарыстычных задумах».

Эдуард Гарачы быў асуджаны судовай калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 6 чэрвеня 1962 г. па артыкуле 67 КК БССР («антысавецкая агітацыя і прапаганда») на 2 гады зняволення. Тэрмін ён адбываў у мардоўскіх лагерах для палітзняволеных, адбыў яго цалкам. Рэабілітаваны Пленумам Вярхоўнага суда БССР 9 снежня 1983 г.

Многія з кола Кіма Хадзеева ў 1962 г. былі выключаны з камсамола і (або) з інстытутаў. Прынамсі, у БДУ выключэнні суправаджаліся факультэцкімі і ўніверсітэцкімі камсамольскімі сходамі, на якіх распякалі «вінаватых» у сяброўстве з «антысаветчыкам» і нават у чытанні «антысавецкай» літаратуры.

Напрыклад, з філалагічнага факультэта БДУ быў выключаны Сяргей Буткевіч. Цікава прасачыць па дакументах БДУ, як матывавалася яго выключэнне з універсітэта. Згодна з успамінамі Сямёна Букчына, матывацыя для выключэння з камсамола на факультэцкім камсамольскім сходзе была адназначна палітычная. Аднак дацэнт Вера Захарава, сакратар партбюро філфака, у дакладзе «Об усилении партийного влияния на работу общественных организаций» на партыйным сходзе філфака 14 лютага 1962 г. прадставіла іншыя падставы: «Буткевич на этом курсе без уважительных причин пропустил 72 часа. Ещё раньше он ушёл из общежития и жил без прописки на частной квартире, а затем у друзей, о которых курс почти ничего не знает. Студенты ждали, когда его за неуспеваемость и непосещение лекций исключат из университета»[98]. Чым далей, тым больш вынаходлівымі робяцца партыйна-ўніверсітэцкія чыноўнікі. Намесніца сакратара факультэцкага партбюро кандыдат

[98] НАРБ. Ф. 205. Воп. 16. Спр. 225. Арк. 82.

філалагічных навук Соф’я Лысенка ў дакладзе «Исполнение требований Программы и Устава КПСС, директив партии в партийной организации филологического факультета» на закрытым партыйным сходзе філфака 22 сакавіка 1962 г.: «За недисциплинированность, безобразное поведение в ресторане исключен из университета студ[ент] 4 к[урса] (рус[ского] от[деления]) Буткевич»[99]. Сяргей Буткевіч быў афіцыйна выключаны з універсітэта загадам № 93 рэктара Антона Сеўчанкі ад 22 сакавіка 1962 г. з усёабдымнай фармулёўкай «за аморальное поведение, порочащее высокое звание студента», падставамі для выключэння паслужылі «письмо начальника Городского отд[еления] милиции и резолюция ректора»[100].

Пасля смерці С. Буткевіча яго жонка Інэса згадвала пра яго студэнцкія гады: «Почти все свободное время он проводил в библиотеке им. Ленина. Там же познакомился с Кимом Ивановичем Хадеевым, который уже успел побывать в местах не столь отдаленных за антисоветскую пропаганду. Они активно общались. Были среди “инакомыслящих” и провокаторы. Правда, Сергея не судили, а взяв подписку о невыезде, через день вызывали на допросы в КГБ. Тогда по делу проходило 67 человек»[101].

Сяргей Буткевіч пераехаў у Віцебск і працаваў шліфоўшчыкам на Віцебскім заводзе заточных станкоў. Праз год, атрымаўшы рэкамендацыю з месца працы, ён вярнуўся ва ўніверсітэт і працягнуў навучанне. Праўда, не ўсе камуністы філфака былі задаволеныя такім ходам падзей. Напрыклад, на факультэцкім пар-

[99] НАРБ. Ф. 205. Воп. 16. Спр. 225. Арк. 68.

[100] Тамсама. Воп. 8. Спр. 1. Арк. 229.

[101] Инесса Буткевич: «Сережа обладал всеми качествами настоящего мужчины…» : Беседовал Владимир Жигулов // Народная воля. 2011. 7 кастр. С. 6.

тыйным сходзе 25 сакавіка 1963 г. студэнт Аляксандр Цалко заявіў: «В прошлом году проводилось комсомольское собрание, где был исключён из комсомола, а также университета т. Буткевич. Но в этом году он восстановлен и это отрицательно влияет на воспитательную работу среди студентов». Выкладчыца гісторыі партыі Надзея Хрыпко дадала: «Не нужно было его восстанавливать. Это человек, который считает себя выше всех, умнее всех»[102].

Як бачым, вельмі часта мова архіўных дакументаў «непразрыстая»; п’яныя бойкі, палавыя эксцэсы, злачынствы, палітычная нядобранадзейнасць апісваліся аднолькавымі фразамі, каб іх немагчыма было адрозніць. Зрэдзьчас згадкі пра Хадзеева і яго сяброў-студэнтаў з’яўляліся і ў друку. Універсітэцкая шматтыражка (перайменаваная ў 1955 г.) змясціла артыкул пра камсамольскі сход хімфака, на якім выключылі з камсамола Анатоля Пестрака. А. Пестрак на сходзе прызнаў сябе вінаватым: «У мяне не хапіла смеласці і прынцыповасці парваць з маральна разлажыўшайся групай Хадзеева». Праўда, з артыкула немагчыма зразумець, у чым жа менавіта заключалася «маральнае разлажэнне» групы. Адзіная канкрэтызацыя абвінавачання: «збіраліся ў Хадзеева, гулялі ў бязглуздую гульню “лухта”»[103].

А ўжо пасля другога выхаду К. Хадзеева з ЛСПБ у трох нумарах «Советской Белоруссии» (ад 13, 14 і 17 верасня) з’явіўся даўжэзны артыкул «Пропаганда со взломом. О некоторых формах и методах идеологических диверсий империализма». У артыкуле

---

[102] НАРБ. Ф. 205. Воп. 16. Спр. 244. Арк. 11–12.

[103] Шохан, Д., член камітэта камсамола універсітэта. А гэта магло не здарыцца… // Беларускі універсітэт. 1962. 11 крас., № 13 (483). С. 2.

прапаганда ЗША, Вялікабрытаніі, Заходняй Германіі ды Ізраіля прадстаўлялася як абсалютнае зло, якому трэба паставіць надзейны заслон, бо як толькі заслон саслабне — з'явяцца Хадзеевы. Не зусім, праўда, зразумела, як можна было паставіць такі заслон, бо, згодна з артыкулам, кожны турыст з названых краін, кожны музыка, які прыехаў на гастролі, — патэнцыйны «ідэалагічны дыверсант». А СССР пры гэтым адкрываўся для знешняга свету, павялічваў колькасць турыстаў (у абодва бакі), колькасць навуковых і студэнцкіх абменаў. Ну, калі «ідэалагічна шкодныя» замежныя выданні яшчэ можна было адлавіць на мытні, то заглушыць усе да адзінай «ідэалагічна шкодныя» музычныя радыёперадачы нават у СССР не спрабавалі. Вось як выглядаў пасаж пра кампанію Хадзеева:

«Особенно стремится империалистическая пропаганда развратить — духовно и морально — советскую молодежь. В статье, опубликованной в американском журнале "Кольерс", прямо говорится, что одним из методов подготовки войны с СССР является моральное разложение молодежи. Необходимо добиться, ставит журнал задачу, чтобы в будущей войне не было "Молодой гвардии", не было Космодемьянской и Матросова.

Вот чего захотели! Вот куда направлено острие их пропагандистских усилий! Разве не ясно, что этим проискам надо противопоставить повседневную воспитательную работу. И как только она ослабевает — появляется щель, в которую пролазят враги. Года два назад некий Хадеев сумел сколотить в Минске группу "стильной" молодежи, в которой проповедовал дух упадничества, пессимизма и антипатриотического нигилизма. Конечно же, такое влияние — непосредственная подготовка к предательству, к измене Родине. Хадеевы слишком редки и ничтожны, чтобы делать

погоду. Но именно они — “лакомый кусочек” для империалистических разведок и пропагандистов»[104].

Пасля выхаду з псіхіятрычнай турмы Кім Хадзееў працягнуў гуртаваць вакол сябе кампаніі маладых і не толькі людзей ды па-іншаму актыўна ўдзельнічаць у мінскім культурным жыцці. Саджаць яго больш не саджалі, але і пра рэабілітацыю звестак у нас няма. Не выключана, што ён дагэтуль не рэабілітаваны (не таму, што «органы» пайшлі на прынцып, а проста па недаглядзе).

## Характарыстыка дакументаў, якія публікуюцца

У дадзены зборнік уключана 28 дакументаў, 22 з якіх складаюць адзіны комплекс (знаходзяцца ў адной архіўнай справе). Дакументы гэтыя разнародныя: як вуснагістарычныя, так і пісьмовыя; з дзяржаўных, грамадскіх і прыватных збораў. Большасць дакументаў публікуецца ўпершыню.

Першым публікуецца транскрыпт тэлеперадачы «Бар “У Олега”» (вядучы — Алег Белавусаў) з удзелам Кіма Хадзеева, бо такім чынам даецца магчымасць пабачыць погляд самога Хадзеева на яго раннюю біяграфію і абедзве крымінальныя справы. Відэазапіс тэлеперадачы быў аблічбаваны некалькі год таму Андрэем Скуратовічам і выкладзены ў інтэрнэт са згоды праваўладальніка[105]. Нашто ў такім разе публікаваць

[104] Андреевич А. Пропаганда со взломом. О некоторых формах и методах идеологических диверсий империализма // Совет. Белоруссия. 1963. 17 сент. С. 3.

[105] Відэа передачы пры публікацыі было разбіта на дзве часткі. Частка першая: https://www.facebook.com/permalink.php?story_fbid=396446227174215&id=100004265230059. Частка другая: https://www.facebook.com/permalink.php?story_fbid=396463033839201&id=100004265230059. Дата звароту: 27.01.2020.

тэкст тэлеперадачы? Па-першае, тэкставы варыянт дае магчымасць індэксаваць, знаходзіць персанажаў і сюжэты праз паказальнік імёнаў і машынны пошук. Па-другое, тэкставая публікацыя дазваляе пракаментаваць рэаліі, мала вядомыя сучаснаму (асабліва маладому) гледачу і чытачу. Па-трэцяе, размешчаныя ў інтэрнэце матэрыялы, як паказвае практыка, маюць тэндэнцыю праз нейкі час з інтэрнэту бясследна знікаць. Транскрыпт публікуецца з некаторымі скарачэннямі, усе яны агаворана ў каментарах. Тэкст тэлеперадачы «Бар "У Олега"» перададзены блізка да арыгінала, але з некаторым скарачэннем уводных слоў, выклічнікаў, празмерных паўтораў, недагавораных слоў. Раней урыўкі з яе публікаваліся ў артыкуле Аляксандра Сушкова «Пепел и дым», с. 331–337).

Другім публікуецца артыкул «Падгалоскі эстэцтвуючых фармалістаў» са шматтыражнай газеты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта «За сталінскія кадры», падпісаны П. Новікавым. Правапіс артыкула прыведзены ў адпаведнасць з сучаснымі нормамі. Артыкул публікуецца, бо газета «За сталінскія кадры» стала бібліяграфічнай рэдкасцю, яе падшыўкі за 1949 г. у бібліятэках Беларусі няма. Артыкул перадрукоўваецца паводле асобніка, які захоўваецца ў фондах Расійскай нацыянальнай бібліятэкі (Санкт-Пецярбург).

Трэцяй публікуецца вытрымка з пратакола паседжання партыйнага бюро БДУ ад 23 сакавіка 1949 г. На паседжанні, сярод іншага, разбіралася персанальная справа студэнта Аляксандра Шлыка.

Чацвёртым публікуецца інтэрв'ю з Уладзімірам Львовічам Мехавым (Няхамкіным), праведзенае мной у 2014 г. Уладзімір Мехаў (1928–2017) — вядомы беларускі журналіст. Пасля заканчэння аддзялення журналістыкі філфака БДУ ў 1950 г. ён працаваў

у «Чырвонай змене», «Літаратуры і мастацтве», на беларускім радыё. Пад час правядзення кампаніі па барацьбе з «касмапалітызмам» ён адначасова вучыўся на філалагічным факультэце БДУ і працаваў і ў газеце «Літаратура і мастацтва», і ў шматтыражцы «За сталінскія кадры». Адпаведна, ён меў унікальную магчымасць назіраць за падзеямі адначасова з некалькіх ракурсаў. У. Мехаў апублікаваў успаміны пра 1949 г. на філфаку БДУ[106], але ва ўсіх трох іх версіях галоўны фокус — на Льву Барагу. У інтэрв'ю ж была зроблена спроба пагутарыць пра іншых удзельнікаў падзей. Інтэрв'ю публікуецца ў вытрымках. Апушчаны тыя месцы, у якіх размова ішла не пра Кіма Хадзеева і не пра БДУ ў другой палове 1940-х — пачатку 1950-х гг. (у большасці выпадкаў скарачэнні не агаворваюцца). На жаль, у час правядзення інтэрв'ю памяць ужо падводзіла майго суразмоўцу, ён часта запінаўся, не заканчваў думкі; таму тэкст інтэрв'ю дастаткова глыбока адрэдагаваны (выкінутыя ўводныя словы, абарваныя фразы і да т. п.).

Пятым публікуецца тэкст, напісаны ў гады «перабудовы» маскоўскім паэтам і перакладчыкам Юрыем Айхенвальдам. Успаміны «Тэатр у вар'ятні» былі напісаныя Айхенвальдам для часопіса «Тэатр», але так і не апублікаваныя пры яго жыцці. У архіве гісторыі іншадумства ў СССР Міжнароднага Мемарыяла (Масква) захоўваецца рукапіс артыкула са шматлікімі аўтарскімі праўкамі (Ф. 197. Воп. 1. Спр. 6. Без пагінацыі). Упершыню артыкул быў апублікаваны (з нязначнымі скарачэннямі і без каментароў) у газеце

[106] Мехаў У. Аблога. С. 193–195; Мехов В. Изгнание // Труд в Беларуси. 2000. 5 окт. С. 18; Мехов В. Во мраке девятого вала (1945–1953) // Репрессивная политика советской власти в Беларуси. Минск, 2007. Вып. 3. С. 327–337.

нования оставлять его в партии. Его поведение недостойно не только коммуниста, но и просто советского студента.

4) Тов. ФИЛИМОНОВ[vi]: Я разделяю мнение тов. Абецедарского, но я хочу еще сказать об его неискренности, а эту неискренность он проявил при поступлении в члены партии[vii]. Я считаю, что Шлык чисто случайно попал в партию.

5) Тов. РОМАНОВСКИЙ[viii]: Сегодняшнее выступление его на бюро непартийно. Он пришел с каким-то чувством зазнайства. Он заявил, что у него нет определенного мировоззрения. Да, у него нет партийного мировоззрения. Считаю, что ему не место в партии.

6) Тов. МАКАРЕВИЧ[ix]: В первую очередь за проступки Шлыка отвечаю я, как коммунист, рекомендовавший его в партию. Шлык не понял политики партии, отошел от принципа партийности. Все поведение Шлыка должно возмущать любого коммуниста. Друг его говорил антисоветские вещи, а он это считал оригинальным. Я считаю, что Шлыка надо исключить из партии.

7) Тов. БУЛАЦКИЙ[x]: Я поддерживаю мнение т. т. об исключении тов. Шлыка из членов партии.

8) Тов. ОРЛОВ: Я не согласен с мнением товарищей, предлагающих исключить Шлыка из партии. Я знаю Шлыка хорошо и его лицо мне известно. Шлык не имеет никакого отношения к путанным аморальным высказываниям Мазеля[xi]. Из-за одного выступления при разборе балета «Князь-озеро» я бы не поставил вопроса на партбюро. Шлык говорил, что у него не сложились эстетические взгляды, а не идеологические взгляды, как говорит тов. Романовский.

Основной проступок, за который мы привлекаем его к партийной ответственности, состоит в том, что он дружил с Хадеевым, высказывавшим антисо-

ветские взгляды, и об этом своевременно не информировал партийную организацию, информировал, но поздно.

У него нет антисоветского мировоззрения. Его воспитывала мать-коммунистка, советская школа, комсомол.

У Шлыка сложилась самовлюбленность, любование собой, оригинальничанье, искание оригинальных товарищей. Шлык не разобрался сразу в антисоветских взглядах Хадеева, а он обязан был понять, что эти взгляды вредны, он был обязан информировать о них парторганизацию. В этом его вина.

Я считаю, что Шлыка можно оставить в партии.

Тов. ШЛЫК: Я никогда не мыслил себе жизнь вне партии. Я все время стремился проводить линию партии, но не всегда умел это делать. После своего первого проступка я всегда был честен с партией. Я очень виноват перед партией. Я обещаю, что все выводы, которые я должен сделать из происшедшего, я сделаю. Обещаю быть верным партии.

ПОСТАНОВИЛИ: Члену ВКП(б) тов. ШЛЫК А. А. за политическую беспечность, выразившуюся в том, что он своевременно не разоблачил антисоветских высказываний своего приятеля Хадеева, не информировал об этом партийную организацию, — ОБЪЯВИТЬ СТРОГИЙ ВЫГОВОР С ЗАНЕСЕНИЕМ В УЧЕТНУЮ КАРТОЧКУ.

СЕКРЕТАРЬ ПАРТБЮРО
БЕЛГОСУНИВЕРСИТЕТА
ИМЕНИ В. И. ЛЕНИНА [подпіс]
(Н. ОРЛОВ)

*НАРБ. Ф. 205. Воп. 16. Спр. 16. Арк. 44, 51–54.*
*Машынапіс.*

## Заўвагі

[i] Хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе кніга Уладзіміра Голубава (Патапава) «Танец Галины Улановой» (Ленинград, 1948). У. Голубаў (Патапаў) — тэатразнавец, агент дзяржбяспекі, які суправаджаў Саламона Міхоэлса ў паездку ў Мінск у студзені 1948 г., пад час якой Міхоэлс быў забіты. Голубаў быў забіты разам з Міхоэлсам.

[ii] Рэдакцыйны артыкул «Об одной антипатриотической группе театральных критиков» з'явіўся ў газеце «Правда» 28 студзеня 1949 г. 29 студзеня «Литературная газета» апублікавала рэдакцыйны артыкул «До конца разоблачить антипатриотическую группу театральных критиков», а 30 студзеня газета «Культура и жизнь» надрукавала рэдакцыйны артыкул «На чуждых позициях. О происках антипатриотической группы театральных критиков». «Правда» і далей цягам лютага і сакавіка публікавала матэрыялы на тэму «барацьбы з бязродным касмапалітызмам». Напрыклад, у нумары ад 10 лютага з'явіўся артыкул Прэзідэнта Акадэміі мастацтваў СССР А. Герасімава «За советский патриотизм в искусстве», у нумары ад 11 лютага — рэдакцыйны артыкул «Об одной антипатриотической группе театральных критиков (На партийном собрании Союза советских писателей)» і г. д.

[iii] Лаўрэн Сямёнавіч Абэцэдарскі (1916–1975), на той час выкладчык гістарычнага факультэта БДУ. У далейшым — доктар гістарычных навук, прафесар БДУ, спецыялізаваўся на гісторыі Беларусі. Вядомы як сталініст і расійскі шавініст. Падкрэсленая «партыйнасць» Абэцэдарскага часткова тлумачылася тым, што яго родны брат быў рэпрэсаваны (высланы ў 1945 г. на Далёкі Усход як спецпасяленец за тое, што ў час вайны трапіў у лік «остарбайтараў», гл: Памяць і слава: Беларускі дзяржаўны універсітэт. 1945–1961 / склад. С. М. Ходзін, М. Ф. Шумейка, А. А. Яноўскі. Мінск : БДУ, 2009. С. 288).

[iv] Абрам Самуілавіч Баркан (1904–1968) — кандыдат хімічных навук, дацэнт, сакратар партарганізацыі хімфака БДУ.

[v] Ганна Натанаўна Нахімоўская (1907–2005) — дацэнт, на той час загадчыца кафедры геаметрыі фізмата БДУ.

[vi] Аляксандр Андрэевіч Філімонаў (1918–2007), Герой Савецкага Саюза (1945), на той час студэнт 5-га курса філалагічнага факультэта БДУ. Пазней — доктар гістарычных навук, прафесар. Тэма кандыдацкай дысертацыі: «И. В. Сталин — организатор и руководитель печати бакинских большевиков (1907–1910 гг.)» (1953).

[vii] Маецца на ўвазе, што А. Шлык пры паступленні ў кандыдаты ў чальцы партыі не ўказаў у анкеце, што ягоны бацька быў рэпрэсаваны.

[viii] Хутчэй за ўсё, Мікалай Тарасавіч Раманоўскі (1912–1997), на той час дацэнт кафедры эканамічнай геаграфіі, кандыдат навук, дэкан геаграфічнага факультэта БДУ ў 1947–1955 і 1962–1983, у далейшым — доктар навук, прафесар.

[ix] Не атрымалася ідэнтыфікаваць асобу. Ініцыялы ў архіўных дакументах на рускай мове — Н. Г. У архіве БДУ няма асабовай справы студэнта ці выкладчыка з такімі прозвішчам ды ініцыяламі.

[x] Рыгор Васілевіч Булацкі (1921–1999), на той час студэнт 3-га курса БДУ. У далейшым — дэкан філалагічнага факультэта БДУ (1963–1967), дэкан факультэта журналістыкі (1967–1981), доктар гістарычных навук (1971), прафесар (1973).

[xi] Міхаіл Ісакавіч Мазель (1925 г. нар.), на той час студэнт хімічнага факультэта БДУ. Скончыў універсітэт у 1952 г. На жаль, невядома, у чым менавіта заключаліся «путанные аморальные высказывания», але яны былі зробленыя ў дакладзе па пытаннях камуністычнай маралі.

# 4
# З інтэрв’ю з Мехавым (Няхамкіным) Уладзімірам Львовічам

*15 кастрычніка 2014, Мінск*
*Інтэрв’юер — Уладзімір Валодзін*

Уладзімір Мехаў (далей — У. М.): [*Звяртае ўвагу на дыктафон*.] Ну, апошнія гады я таксама ўжо працаваў з дыктафонам. Але пачаў я ў журналістыцы працаваць у сорак пятым годзе і шмат дзесяцігоддзяў усё з блакнотам запісваў.

[…]

У. М.: Давід Яўсеевіч Фактаровіч быў загадчыкам кафедры зарубежнай літаратуры. Доўгі час быў загадчыкам кафедры зарубежнай літаратуры. Вот яго абвінавацілі. Ён падтрымваў... у добрых [стасунках быў з Львом Барагам]... А Бараг працаваў на кафедры рускай літаратуры.

Уладзімір Валодзін (далей — У. В.): У Гутарава.

У. М.: Бараг жыў у Маскве. Тады ў нас многія выкладчыкі жылі ў Маскве, прыязджалі сюды працаваць... Марыя Іванаўна...

У. В.: Карнеева-Петрулан.

У. М.: Карнеева-Петрулан. Гэта была смешная такая жанчына, Карнеева-Петрулан. Анекдот пра яе раскажу. Была яна такая вельмі цнатлівая. Дык вот

такі анекдот пра яе хадзіў, што «иду я по улице і чытаю слова з трох літар». У жаху, так сказаць. І тут: «Это слово мир?» Да. Карнеева-Петрулан. Яшчэ быў прафесар... прыязджаў.

У. В.: Нейман, магчыма?

У. М.: Нэйман. Прафесар Нэйман. Гэта ўсё масквічы наязджалі сюды. І ў асноўным наязджаў сюды і Бараг. Жыў ён у... Вы ж разумееце, сорак пяты, сорак шосты год, абсалютна разбураны горад, жыць няма дзе. А тут наязджалі. Быў Саўсун. Імя па бацьку вот я забыў.

У. В.: Васіль...

У. М.: Васіль.

У. В.: Рыгоравіч.

У. М.: Да. Справа ў тым, што ён жа быў пасаджаны. Вот я паглядзеў у энцыклапедыі літаратурнай. Пераверзеў, ну і «пераверзеўшчына». Вот пасадзілі Пераверзева, так. Гэта было... «Весялоўшчына» і «пераверзеўшчына» — гэта было, божа мой, самае грэшнае, так сказаць. І разам з ім працаваў, супрацоўнікам яго быў Саўсун Васілі Грыгоравіч. Мы ж не ведалі тады, што ён вярнуўся з лагера або з высылкі, не ведаю. Чытаў цудоўна. Быў ужо немалады чалавек. Аплыўшы такі, азызлы. Пазней я даведаўся, што гэта вельмі буйны спецыяліст са школы Пераверзева. І ён сядзеў. Ён [да арышту] працаваў у Маскве, але тут ім дазволілі працаваць, калі выпусцілі. Ужо ў Маскву — не, але вот у Мінску ён працаваў. Ён чытаў лекцыі. Чытаў цудоўна. У час барацьбы з касмапалітызмам яго не чапалі. У час барацьбы... на філфаку быў галоўным абвінавачаным Бараг. Справа ў тым, што Гутараў Іван Васільевіч... Чытаў ён някепска, папулярным быў. Такі гаварун. Але ён абараняў кандыдацкую дысертацыю па Маякоўскаму і да вайны ў Магілёве працаваў[i]. А доктарскую ён абараніў па партызан-

скім фальклоры. І ішлі чуткі і размовы пра тое, што ўсё гэта матэрыялы Барага, што ён яго выжыў і ўзяў... А Бараг быў фальклярыст вельмі высокага ўзроўню. Дастаткова сказаць, што ён працаваў пасля ва Уфе, але на нямецкай мове вышла кніга «Беларускія казкі»[ii]. Ён вельмі быў такі буйны спецыяліст. Так вот гаварылі, што партызанскі фальклор сабраны быў Барагам, ён рыхтаваў[iii]. Але яны на кафедры былі, матэрыялы. Яго выжылі, і ўсе гэтыя матэрыялы прысабечыў, так сказаць, гэты самы Гутараў. Такая была гаворка. Я даказаць гэта не магу, але так гаварылі. Таму што абараніў ён доктарскую дысертацыю па фальклоры, якім ніколі да таго не займаўся[iv].

У. В.: Ну, а Бараг займаўся...

У. М.: А Бараг быў фальклярыст… Абвінавачанні былі, што ён скажае фальклор, што ён там то, другое і прочае, хаця ўсё гэта было глупства.

У. В.: Вот ведаеце, пра Барага дастаткова шмат апублікавана і ў артыкулах розных, у газетах, у «ЛіМе» ў тым жа Бараг пастаянна скланяецца. І ў дакладзе Гусарава на з’ездзе. А вот пра Фактаровіча менш.

У. М.: Пра Фактаровіча. Фактаровіч, яго абвінавачвалі чаму? Па-першае, блізкае сяброўства з Барагам. А па-другое, разумееце, што быў касмапалітызм. Касмапалітызм — гэта было, так сказаць, «преклонение перед зарубежной, перед западной литературой». Але ж Фактаровіч — загадчык кафедры зарубежнай літаратуры.

З год назад выйшла кніжка Фактаровіча, яго доктарская дысертацыя, якую яму не дазволілі, не далі магчымасці абараніць, так сказаць. І выжылі яго. Тут у яго сямейныя розныя непаладкі былі, вот, і ён выехаў. Так вот выйшла кніжка з прадмовай Мальдзіса. І Мальдзіс там піша, у гэтай прадмове[v]. Ён працаваў у сябе ў Астраўцы пасля заканчэння ўніверсітэта, у

раённай газеце. І ён прасіўся ў аспірантуру да Фактаровіча — хацеў па зарубежных літаратурах. І Фактаровіч яму сказаў: «Нашто вам?.. Ідзіце па беларускай літаратуры. Там вас чакае...» Ну, і так і адбылося. Калі б Мальдзіс заняўся зарубежнай літаратурай, вядома, ён не падняўся б так высока, як ён падняўся. Так што Фактаровіча асабіста не абвінавачвалі. Яго як «примкнувшего» да Барага. Асноўны ўдар быў па Барагу. Сход быў агульнаўніверсітэцкі. Страшна было. Бледны Бараг. Сядзіць усмешлівы ў прэзідыуме Гутараў. Яшчэ там рэктар сядзіць Іван Савіч Чымбург[vi]. Даклад робіць Ваня Кудраўцаў, студэнт пятага курса[vii]. Потым ужо... ён тут недалёка ад мяне жыў, мы з ім у добрых былі адносінах, і я гавару: «Ну, Ваня, ну што ты...» — «Ну а што? Мне прапанавалі, так сказаць, я член партыі, абяцалі аспірантуру пасля. А так бы паехаў куды-небудзь настаўнікам».

У. В.: Там трошку больш складаная сітуацыя была з Кудраўцавым. Справа ў тым, што яму не толькі абяцалі аспірантуру, а яго літаральна за паўмесяца, за пару тыдняў да гэтага сходу, яго разбіралі на партбюро ўніверсітэта за тое, што ён не плаціў... плаціў складкі партыйныя не з поўнага заробку. Бо ён быў адначасова ў аспірантуры ці вучыўся вот ва ўніверсітэце і працаваў у «ЛіМе», і толькі з універсітэцкіх даходаў плаціў партыйныя складкі. І яго ў сорак дзявятым годзе, у лютым, за гэта разбіралі. І пагражалі выключэннем з партыі. І, відаць, напалохалі, сказалі, што вот выступіш там — тады выключэння не будзе[viii].

У. М.: Чакайце. Справа ў тым, наконт «ЛіМа». Я ў «ЛіМе» працаваў па загаду... Я пачаў раней, але па загаду — са студзеня сорак шостага года. І Кудраўцаў, і Шкраба[ix] — яны пры мне ўжо прыйшлі. Да жніўня сорак восьмага года. Потым так выйшла, што ўніверсітэт адбудаваў свае два карпусы, і заняткі... Так мы

ўвечары ў школах займаліся, і я мог працаваць. А тут я ўжо не мог працаваць, таму што на занятку павінен быў... Таму я пайшоў. А вот Ваня, па-мойму, тады прыйшоў, вот недзе да майго [звальнення]... Аналагічная сітуацыя з тым, што ён не поўнасцю плаціў членскія ўзносы, была з Гутаравым, але пасля гэтага. І быў партыйны сход, на якім яго разбіралі. Але ён смехам: «Ну, я забыўся, што мне там...» Яму зрабілі заўвагу, па-мойму, вымовы яму не далі, але таму што ён жа — цэкоўскі работнік да ўсяго. Але ён так: «Ну што, ну забыўся...»

У. В.: Ну, смехам, да.

У. М.: Ну вот. Значыць, дакладчыкам быў Кудраўцаў. А выступаючыя... я помню, што вельмі мне было крыўдна — Юра Васільеў[x], будучы філосаф, вельмі разумны, вельмі прыстойны чалавек. Але таксама член партыі. Галоўнае — вы ж вучні гэтага самага Барага! Вот яны. Так што адзін Бараг. Фактаровіча, яго не абвінавачвалі нібы, але вот яго, так сказаць, за [кампанію]... Зноў жа, нейкія непрыемнасці ён меў, але з работы яго тады не знялі.

У. В.: Ну, так, яго разбіралі там таксама на партбюро і на партсходзе. А Васільеў дзе вучыўся?

У. М.: Васільеў канчаў разам з Кудраўцавым, канчаў філфак. Філалагічны факультэт. Тады яшчэ філасофскага не было. Але ў аспірантуру ён пайшоў па філасофіі, і стаў ён дэканам пазней філалагічнага факультэта ўніверсітэта і працаваў прафесарам. Ён вельмі разумны і прыстойны чалавек. Але час, партыйны білет. Ён тады таксама выкрываў гэтага Барага, будучы студэнтам яго. У аспірантуру ён пайшоў па філасофіі. І стаў доктарам філасофскіх... вельмі аўтарытэтны вучоны. Я нават не ведаю, ці жывы ён яшчэ. Ён дваццаць другога, здаецца, года нараджэння. Я з ім у шматтыражцы працаваў. Я быў сакратаром там год

ці паўтара шматтыражкі, а рэдактарамі шматтыражкі былі... Спачатку быў Філімонаў Саша, Герой Савецкага Саюза, канчаў факультэт журналістыкі, будучы прафесар, доктар, сталініст[xi]. Ён быў. А пасля яго Юра Васільеў быў маім рэдактарам, а я быў...

У. В.: А Абэцэдарскі[xii] там?..

У. М.: Абэцэдарскі да мяне. Пасля Абэцэдарскага, пасля Абэцэдарскага быў Філімонаў[xiii]. Вот пры Філімонаве я стаў сакратаром шматтыражкі. Справа ў тым, што... гэта сорак восьмы год. Я на чацвёрты курс, да, на чацвёрты курс пайшоў ужо займацца, ну, а паколькі ў мяне быў вопыт ужо работы ў рэдакцыі... «О, вот ты ўжо вопытны, ты і будзеш сакратаром». І я стаў сакратаром шматтыражкі. Газета шматтыражная называлася тады «За сталінскія кадры». Па штатнаму раскладу там была адна адзінка — адказны сакратар. Там не помню якая была стаўка. Дык вырашылі так: стаўку адказнага сакратара плаціць рэдактару, бо лічылася, што гэта грамадскае... Рэдактару. А сакратару — я быў залічаны як старшы лабарант. І потым... калі я на пяты курс перайшоў... Пасля чацвёртага курса я быў на практыцы ў «Звяздзе». Паслалі мяне ўсё роўна, хаця ў мяне практыка была, я ўжо і друкаваўся. Ну, гэта я пішу...[xiv] Я там быў у аддзеле ў Герцовіча[xv]. І вот у сорак дзявятым годзе... Кампанія барацьбы з касмапалітызмам, яна ж пачалася з артыкула ў «Правде», вы гэта ведаеце.

У. В.: Так, так. І «Культура и жизнь».

У. М.: І гэта быў студзень сорак дзявятага года. А яна пасля гэтага. І я быў якраз у студзені сорак дзявятага года яшчэ чацвёрты курс, я быў на практыцы ў «Звяздзе», пры мне пачыналася гэта кампанія. Потым ужо я перайшоў на пяты, і ўжо ўсё. Паколькі я пісаў дыпломную работу, я ўжо не быў сакратаром шматтыражкі.

У. В.: А яшчэ падчас таго сходу, калі шальмавалі Барага, таксама разбіралі і такога Івана Матвеенку.

У. М.: Ага.

У. В.: Вы памятаеце? Яго тады не звольнілі, але яго праз пару гадоў[xvi].

У. М.: Справа ў тым, што Іван Матвеенка... Вот прозвішча вы мне напомнілі. Яны ішлі па другой кампаніі. Сталін тады ўдарыў усю навуку. Ён напісаў работу... Як яна называлася? «Вопросы языкознания», што лі?[xvii] Антым*а*раўскую. І Матвеенка чытаў у нас мовазнаўства курс. Я не помню, як ён называўся. Ну, і чытаў, вядома: Мар[xviii] — гэта высокае, усё такое. А тут — работа Сталіна, і ўсё, што нам чытаў Матвеенка, загадана забыцца, і Матвеенка перачытаў новы нам курс, але яго на гэтым сходзе папракалі за тое, што ён... «Вот бачыш, зусім не па-сталінскаму вучыў». Яго не звольнілі. І па гэтаму ж мовазнаўству непрыемнасці меў, я не помню, ці звольнілі яго, гэта ў архівах, Касоўскі такі[xix].

У. В.: Касоўскі, да.

У. М.: Касоўскі. Вот ён таксама меў непрыятнасці розныя...

У. В.: Таксама з-за таго, што па Мару чытаў? Касоўскі?

У. М.: Я не помню там. Але, вядома, ён чытаў па ранейшых устаноўках, так сказаць. А тут усё пера... Вот Касоўскі і Матвеенка — яны былі ахвярамі вот гэтай вот кампаніі. Хаця яны там адно на адно наслойваліся, гэтыя кампаніі. Але яны розныя кампаніі.

У. В.: Ну, але менавіта слова «касмапалітызм» у дачыненні да Матвеенкі ў пратаколах, яно гучыць.

У. М.: Гучыць, да, да.

У. В.: Ну, паколькі сход адзін, кампанія адна, яны ў тэрміналогіі самі, шальмуючы...

У. М.: Не шыбка разбіраліся.

У. В.: А тады... Можна ў вас яшчэ трошку перапытаць пра Саўсуна? Вы далейшы яго лёс адсачылі, заўважылі?

У. М.: Не ведаю. Не ведаю. Па-мойму, ён вярнуўся ў Маскву пазней ужо. Або памёр. Ён быў вельмі хворы, сардэчнік такі, аплыўшы. Чытаў ён цудоўна.

У. В.: А Нейман? Як яго?.. Яго звольнілі вельмі хутка так неяк, ціха.

У. М.: Ну, разумееце, яны былі не ў штаце. Ён прафесар Маскоўскага, па-мойму, універсітэта, але чытаў курс. Відаць... Потым яго проста не запрашалі. Перасталі запрашаць. Гэтаксама, як і Карнееву-Петрулан. Перасталі запрашаць. Свае кадры падраслі, так сказаць.

У. В.: Але, вот што тычыцца Неймана, я такога не заўважыў, а што тычыцца Карнеевай-Петрулан, то на партыйных сходах, на партбюро падымалася пытанне пра тое, што вот яна ідэалістычныя канцэпцыі выкладае, што трэба ад яе пазбавіцца. І там адказ ідзе ад Арлова, здаецца, сакратара партбюро: «Нам пакуль няма яе кім замяніць»[xx]. А ўжо праз год яе замянілі.

У. М.: Да іх, да гэтых масквічоў, мелі прэтэнзіі. І наогул. Па-першае, хацелі свае кадры, падраслі такія. А па-другое, «ну что этот, понимаешь, приезжает». Я ж не быў... Я быў студэнтам, я на партком не хадзіў.

У. В.: Проста, можа быць, вы... менавіта што не на партбюро, а што, можа быць, штосьці выплёсквалася ў якасці чутак.

У. М.: Калі дзе-небудзь сярод выкладчыкаў выплёсквалася, то ў нас да студэнтаў гэта не даходзіла.

У. В.: Можа быць, Гутараў на лекцыях, дапусцім, Карнееву-Петрулан бэсціў?

У. М.: Ён яе не ўспамінаў. Ён так, байкі расказваў. Тэорыю літаратуры ён чытаў. Кожны раз у яго анекдот быў, кожны год паўтаралася гэта. Мінскі базар да

вайны. І тут татарын крычыць, што падыходзьце да мяне, беларус крычыць, яўрэй крычыць: «Гот рахмонэс, іх бін а калікер»[xxi]. Гэта кожны год ён... Ну, вядома, рогат стаіць. Але каб ён там... На сваіх лекцыях ён не ўспамінаў ні Барага, ні Карнееву-Петрулан. Іншая рэч, што ён быў у ЦК і там за рэктаратам ён... Але ён так, смешныя гісторыі расказваў, усё такое.

У. В.: А вось была такая Раіса Барысаўна Паіна...

У. М.: Паіна. Гэта была жонка рэктара ўніверсітэта Савіцкага[xxii]. Потым яны разышліся, ён ажаніўся з аспіранткай сваёй. Паіна чытала ў нас рускую літаратуру. Чытала вельмі нецікава. Было вельмі нецікава.

У. В.: Па пратаколе сходу Паіна, і ў іншых месцах яна таксама выступала як партыйная, супраць Барага...

У. М.: Выкрывала, да? Яна была баязлівая такая, непрыгожая жанчына. Чытала кепска, па-школьнаму так.

У. В.: А вось яшчэ, калі Барага выганялі, ёсць такія сведчанні, што яму пасля прачытання апошняй лекцыі арганізавалі апладысменты. Вы што-небудзь пра гэта чулі?

У. М.: Апладысменты? Да. Студэнты рэагавалі вельмі... Гэта таксама яму не даравалі, разумееш. Чытаў ён здорава. Потым... Крэсла, скажам, стаіць, а ён пра гэта забываецца і праз крэсла гэта... Вельмі здорава. Мяне ўжо падводзіць памяць. Калі я пісаў гэты артыкул [паказвае на часопіс «Полымя»][xxiii], я больш памятаў. Але студэнты вот гэту кампанію супраць Барага абсалютна не прынялі. І тое, што апладысменты недзе былі, да. І гэта яшчэ горш, гэта выклікала такую... «А, вот што!..» Навум Кіслік[xxiv], быў такі паэт, ён вучыўся, аднакурснік быў мой. Мы ж адзін курс: Саша Адамовіч[xxv], усё такое. Толькі я — аддзяленне журналістыкі, а яны — філфак. Ну, у нас аўдыторыі

былі побач, так што я з імі сябраваў. Навум Кіслік напісаў паэму потым пра... Тады яшчэ нельга было так. Но ён усю гэтую гісторыю выклаў, пра Барага. Но я не помню, друкаваў ён яе дзе-небудзь ці не. На ўсю гэту кампанію. Студэнты ў масе ў сваёй абсалютна не прынялі гэта. Гэта што-та не так[xxvi]. І яны такі наладжвалі і апладысменты таксама. Бараг проста баяўся гэтага, разумееце... Высокі быў такі...

У. В.: І вот я хачу распытаць пра Кіма Хадзеева, таму што персона такая менавіта легендарная, пра яго шмат легендаў, але мала што апублікавана.

У. М.: Ясна. Вы разумееце, прачытаў я раман Някляева, ну, вы ведаеце раман[xxvii].

У. В.: Пра раман я чуў, але, на жаль, сам не чытаў яшчэ.

У. М.: А ён у мяне ёсць, прачытаў я раман гэты. Вы разумееце, ну я не магу... Для мяне Кім Хадзееў ну ніяк не легендарны, гэта хлопец, я яго добра ведаў, самыя былі добрыя адносіны. Я помню ў яго непрыемнасці. Іх была тройка, сябравалі: Саша Шлык, каторы стаў потым буйным вучоным, біёлагам… Ён не філфак канчаў, ён хімфак.

У. В.: Хімфак, так.

У. М.: Будучы ў Акадэміі навук, ён не будучы акадэмікам беларускай Акадэміі навук быў выбран членкорам Акадэміі навук СССР. Ён рана памёр, жонка яго яшчэ жыве, Валя Пытлякова, тут недалёка. Дык вот кампанія была: Саша Шлык, Кім Хадзееў, Разіта Калпакчы такая была. Вот яны вельмі сябравалі. У Сашы Шлыка тады... Проста ён вельмі перажываў... У яго быў раман... Гэта ўжо не для друку...[1] Але для Сашы Шлыка гэта была трагедыя. Ён быў сакратаром

[1] Далей прапушчана апісанне рамана Аляксандра Шлыка з адной студэнткай універсітэта.

камітэта камсамола ўніверсітэта... Трагедыя страшная. І супала з тым, што на абмеркаванні спектакля «Князь-возера» па Залатарову ён выступіў, здаецца. Што-та «шибко революционизированно», што-та ў такім духу. І ім потым гэта ўсё...

У. В.: Узгадалі.

У. М.: Ну, Саша Шлык... А ён, па-мойму, ужо быў член партыі.

У. В.: Да, ён быў член партыі.

У. М.: Ён быў член партыі. Але гэта сяброўства... Кім быў... Ён жа малы... Там сумесь такая: бацька яго татарын[xxviii], а маці яўрэйка, знача, была. І вот сумесь крывей, і ён быў архігеніяльны. У чатыры гады ён гаварыў (гэта гаварылі мне яго суседзі па дзяцінству): «Партия — это авангард рабочего класса». Я ведаю, што вакол яго сабіраўся гурт, так сказаць. Гэта я ўсё ведаў. У мяне былі з ім самыя харошыя адносіны. Артыкулы Хадзеева друкаваліся ў суаўтарстве з Трэстманам, каторы цяпер у Ізраілі. Яны ўсе друкаваліся дзякуючы мне або ў «Чырвонай змене», дзе я быў загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва, і я яго прыцягваў, або ў «ЛіМе». Я быў загадчыкам аддзела, потым сакратаром «ЛіМа». І я яго падтрымліваў. Гэта ўсе, усе артыкулы Хадзеева, каторыя друкаваліся, яны ішлі праз мяне[xxix]. Але я ведаў, што там вакол яго, і цяпер мне звоняць... Дзялендзік вот сядзеў тут, дзе вы седзіце. Анатоль Дзялендзік, ведаеце, драматург[xxx]. Ён, аказваецца, таксама з гэтай кампаніі... А Кім жыў тут недалёка ад мяне, я яго сустракаў[xxxi]. Там збіралася моладзь... Сапраўды, ён сядзеў, гэта ўсё правільна. Але такое, што вот гуру, такі гуру ён быў для моладзі. Але я яго як легендарную асобу... для мяне чалавек проста такі, выдумляў сабе...

У. В.: Чаму, я кажу, ужываю слова «легендарны»? Таму што пра Хадзеева амаль нічога не надрукавана.

Ён — асоба, якая выпала абсалютна з афіцыйнага свету, ён існаваў у нейкім сваім паралельным свеце, і пагэтаму пра яго ходзяць легенды, як жанр фальклору. Не таму што ён герой у гэтых легендах, а таму што ён проста персанаж фальклору і абсалютна неафіцыйны.

У. М.: У рамане Някляева яго завуць Палкоўнік. Я не помню, каб яго хто называў Палкоўнікам. Яго выдумляюць. Ён не быў... Ну, прэтэнзіі. Усё жыццё ён пісаў, пісаў нейкую работу, якая павінна была перавярнуць свет, так сказаць, але што гэта работа? Пісаў ён цяжка, кепска, таму заўсёды ён у сааўтарстве пісаў.

У. В.: Мяне перадусім цікавіць, якім ён быў у гады студэнцтва.

У. М.: Ну, вот такі. Я яго ведаў і пазней, і ў гады студэнцтва. Быў такі, ён памёр, Алег Белавусаў. Адзін час ён вёў “У Лявона” па тэлебачанні перадачы[xxxii]. І там выступалі, і я там выступаў. І там выступаў неяк Кім Хадзееў.

У. В.: Я глядзеў гэтую перадачу.

У. М.: Да. Значыць, ён расказваў ужо як легенду сваю ўніверсітэцкую гісторыю, усё гэта расказваў. А я сяджу на кухні ў сябе, гляджу гэту перадачу. І раптам чую, што Алег задае яму пытанне. Ці не задае пытанне, ён сам расказвае, што ў час яго ўсякіх непрыемнасцей усе студэнты абыходзілі яго. Гэтага не было, ну, так яму... яму здавалася. І толькі тры чалавекі па-ранейшаму да яго вельмі добра ставіліся. Хто? Навум Кіслік, Коля Крукоўскі і Валодзя Няхамкін — я. Я вылупіўся. Я ніколі не думаў тады... Я як да яго адносіўся тады, так і працягваў. Але я ніколі не думаў, што вот так вот гэта запомніцца яму. Ну, відаць, ён балюча... і яму запомнілася, што вот тры чалавекі — Коля Крукоўскі... Ну, вы ведаеце яго, ён таксама канчаў філфак у адзін год са мной. А ў аспірантуру ён пайшоў па філасофіі. І стаў буйным філосафам. А канчаў ён філфак, у пяцідзясятым годзе. Гэта адзін

курс вот іх: Адамовіч, Крукоўскі, Кіслік. Гэта ўсё з аднаго курса. Я быў на паралельным... у тым жа годзе, але на аддзяленні журналістыкі. Са мной канчаў Міша Цікоцкі[xxxiii]. Хто ж яшчэ?.. Такая Васілеўская ёсць, літаратар, Галя Скрыпко[xxxiv]. Так што для мяне Кім — не легендарная асоба, а такая прыдуманая. Вот цяпер, я так лічу, цяпер вот той жа Някляеў... Ім патрэбна гісторыя Мінска і нейкія, так сказаць... І вот сярод міфаў, якія прыдумляюцца... Хаця вакол яго дзействіцельна гуртавалася моладзь. Яны лічылі яго такім сваім гуру... Чарняўская Юля. Яна з гэтай кампаніі, яна мне звaніць: «Уладзімір Львовіч, — калі ён памёр у Бараўлянах, — надо нам как-то Кимушку...» А гэту Юлю Чарняўскую я вот такой дзяўчынкай памятаю. Я сябраваў з яе маці. Ну, і другія, і вот Дзялендзік, і ўсе. Там збіралася кампанія, там у яго, збіраліся і жылі там. Ён усё жыццё ніколі нідзе не працаваў. Жыў ён з таго, што ён пісаў дыпломныя работы, дысертацыі па розным... Ён пісаў і на гэтым ён зарабляў, так сказаць. З гэтага ён жыў.

У. В.: А скажыце, калі ласка, як праходзіла гэтае абмеркаванне балета «Князь-возера»? Яно праходзіла ва ўніверсітэце?

У. М.: У тэатры.

У. В.: У тэатры? Але яно было толькі для студэнтаў, выкладчыкаў універсітэта ці гэта было больш шырокае?

У. М.: Я не быў на спектаклі. Я бачыў «Князь-возера», але не на гэтым спектаклі. А на гэтым, у час культпаходу, я там не быў. Толькі адразу дайшло: вот, там выступілі. «Шибко революционизированный». Адразу прыйшло ва ўніверсітэт. І пачаліся непрыемнасці. Гэта я ўжо ведаў проста як у шматтыражцы. Ведаў, паколькі вот адразу там вот гэту тройку вылучалі: Шлык, Хадзееў, Разіта Калпакчы.

У. В.: А гэта быў як бы ўніверсітэцкі культпаход у тэатр оперы і балета?

У. М.: Культпаход, да. Універсітэцкі культпаход.

У. В.: А там яшчэ, калі Хадзеева распякалі, то фігураваў такі «фармалістычны даклад» пра Маякоўскага. Вы чулі гэты даклад на студэнцкай канферэнцыі?

У. М.: Што, ён чытаў свой даклад?

У. В.: Ну да, на студэнцкай канферэнцыі, і што гэты даклад быў фармалістычны, там штосьці не тое было.

У. М.: Нічога я такога не памятаю. Нічога не ведаю.

У. В.: А Хадзеева за што выгналі? Толькі за гэты выступ на «Князь-возеры»?

У. М.: Не, не. Там усё разам. Яго тады і ўзялі. Язык у яго быў, так сказаць, кепска падвешаны, разумееце. І ён гаварыў, відаць, на нейкіх сходах, ён дазваляў сабе выказванні. А тады вельмі за гэтым сачылі. І яго выключылі, і хутка яго пасадзілі. А пасля таго ён... Ён заканчваў ужо, па-мойму, дыплом атрымаў за педінстытут. Там, нібыта так я чуў. Працаваць ён ніколі нідзе не працаваў... Так што Кім Хадзееў — гэта цяпер міф нарадзіўся. Хаця... Ну, ён даваў нейкія падставы. Вот гуртавалася вакол... Для іх, для гэтых маладзейшых, вядома, ён быў старэйшы, ён расказваў. І ён для іх быў... божа мой. Гаварыў. Ён знаёмы з дысідэнтамі маскоўскімі і ўсё такое. Для мяне ён легендарным не быў.

У. В.: Ага, вось яшчэ з выкладчыкаў. Но яны пазней прыйшлі. Вы ў пяцідзясятым годзе скончылі, так?

У. М.: Да.

У. В.: Можа быць, вы нават з імі не сутыкаліся. Такі быў Леанід Якаўлевіч Рэзнікаў.

У. М.: Ха! Ён чытаў у нас.

У. В.: Чытаў? А вот у яго якія-небудзь непрыемна-

сці былі?.. У яго якія-небудзь праблемы з Гутаравым былі?

У. М.: Ён не... Я не помню. Магчыма, нешта было. Но так... Ён не быў канкурэнтам Гутараву. Круцікава была яго жонка[xxxv].

У. В.: Людміла Уладзіміраўна, так.

У. М.: Гэтая тая самая Круцікава, каторая потым, калі яны паехалі ў Петразаводск[xxxvi], кінула гэтага Рэзнікава і стала жонкай Фёдара Абрамава. Ну, Фёдар Абрамаў... Быў вельмі буйны празаік. А яна была жонкай Рэзнікава, і яны — і ён, і яна — працавалі тут ва ўніверсітэце. Ну, што? Ну, ён быў сам літаратар трошкі. Но яны папрацавалі тут гады два-тры. Я не помню, каб нейкія былі... Можа, там, наверсе былі нейкія, але да нас не даходзіла, што нейкія там адносіны.

Вот яны некалькі гадоў... Я магу пераблытаць. Два ці тры гады яны працавалі тут, у Мінску. А потым яны, па-мойму, паехалі ў Петразаводск адразу. А потым не знаю, дзе і як там усё здарылася. Яна стала жонкай Абрамава.

У. В.: Так. І вось іншыя кампаніі таго часу ў галіне літаратуры і мастацтва як закраналі філфак? У прыватнасці такія ва ўніверсітэце «суды гонару», «суды чести»?

У. М.: Нет. Пры мне іх не было. Но гэта б*ы*ла не пры мне, трохі пазней. Я кончыў у пяцідзясятым, ну, а кампаніі розныя... Вот, пяцьдзясят першы, пяцьдзясят другі год, гэта ўсё яшчэ на ўсю катушку круцілася.

У. В.: Можа быць, вось яшчэ трошку пра сітуацыю з Ларчанкам вы распаведзяце?

У. М.: Ларчанку вінавацілі ў нацыяналізме, Ларчанку вельмі туды... Вы разумееце, тады, тады... На Украіне вершы Уладзіміра Сасюры з’явіліся. «Любі Украіну». І з гэтага пачалося, так сказаць. «Любі

Украіну» — абвінавацілі ў нацыяналізме, і пачалася кампанія[xxxvii]. Але, зноў жа, яшчэ не закончылася гісторыя з Ахматавай і Зошчанкам, гісторыя пастановаў аб часопісах «Звезда» і «Ленинград», калі Ахматава і Зошчанка былі выключаны і пазбаўлены нават хлебных картак. То тут, у Мінску, непрыемнасці мела Эдзі Агняцвет, каторая перакладала Ахматаву. Вот, за гэта — яна перакладала Ахматаву. А вот тады, гэта пазней ужо, за «Любі Украіну» Сасюры пачалі шукаць нацыяналістаў паўсюду, па ўсіх рэспубліках, у тым ліку і ў Беларусі. Ларчанка меў непрыемнасці. За яго работы пра дарэвалюцыйнае: Купала, «Наша ніва». Там шукалі нацыяналізм, так сказаць. І ён меў непрыемнасці вялікія тады. Так. Ларчанка. Што датычыць іншых, тады быў з'явіўся ў адзін, я не помню точна год... З'явіўся ў «ЛіМе» артыкул Барыса Бур'яна, майго бліжэйшага друга пазнейшага, на паласу. А «ЛіМ» выходзіў тады... Гэта пры мне мы яго зрабілі фармата, гэта была пастанова ЦК, але на самай справе ідэя гэта належала мне. Гэта пры Прокшу мы яго зрабілі такім штотыднёвікам. А тады яна выходзіла два разы на тыдзень фарматам «Праўды», і вот на паласу быў артыкул Бур'яна. «Слова паэта — зброя народа» называўся артыкул, так. Гэта артыкул, дзе... Рэдактарам «ЛіМа» быў тады Васіль Вітка. І вот Бур'ян мне расказваў, што гэты артыкул ён напісаў па заданню Васіля Віткі. Гэта літаральна ўсе беларускія паэты, ува ўсіх знаходзіўся вот такі, так сказаць, грэх. Або нацыяналістычны, або яшчэ які. У тым ліку ў самога Віткі. І мне Бур'ян расказваў, што Вітка яму сказаў: «Вот вы вазьміце і мае вершы, так сказаць, у каторых я...» Гэта быў страшны артыкул па таму часу. Быў такі артыкул Барыса Бур'яна, «Слова паэта — зброя народа»[xxxviii]. Вот. Так што тады... І... з'явіўся гэты пасля ўкраінскіх вершаў. І аналагічныя грахі, нацыяналізм

шукалі, вышуквалі ўсюду. Дастаткова сказаць... Вот я пісаў пра гэта ў «ЛіМе». Вы, вядома, артыкул гэты не бачылі. Быў у мяне артыкул. Справа ў тым... У Панчанкі, калі ён быў у Іране, у «ЛіМе» вот я запомніў гэты верш... Быў такі верш: «Што я думаў, гледзячы на Каспійскае мора». Там былі такія радкі: «Паўмора зачэрпну і ў Піншчыну выплесну». На беразе Каспійскага мора сядзіць. Апошнія радкі я помню: «Сяджу ля Каспійскага мора на беразе і марай уласнае сэрца трывожу. Мая Беларусь у рамонку і верасе, цябе не на жарты зрабіць я намерыўся і самай багатай, і самай прыгожай». Дак вот гэты верш вот у той рэдакцыі, якую я вам прачытаў, быў надрукаваны. Але калі дайшло да кніжнага варыянта, то Панчанку абвінавацілі: «Як гэта, Беларусі самай багатай, самай прыгожай?» Самай! Абвінавацілі, і ён сапсаваў тыя радкі. Цяпер не помню, у мяне недзе ёсць гэты артыкул, да. Ён там апошнія: «Цябе не на жарты зрабіць я намерыўся...» Без «самай багатай», без «самай». І такой, і прыгожай, і ўсё такое. Але не «самай», не было гэтага[xxxix]. І «самай багатай» — гэта ўжо «нацыяналізм». І так вот... Ларчанка, мы з яго пачалі, меў тады непрыемнасці нейкія.

У. В.: А вот студэнты гэта адчувалі?

У. М.: Не, не. Ну, што мы... Мы, па-першае, раз партыя сказала, так яно і ёсць. Гэта я не помню. Я яшчэ чаму ведаў больш, чым іншыя студэнты? Таму што ў мяне была лімаўская загартоўка. Я там працаваў у «ЛіМе», я ведаў гэта. А так, студэнты — мала хто гэта ведаў.

У. В.: Ну, вялікі дзякуй! Пакуль што ў мяне пытанняў больш няма.

У. М.: Калі ласка!

## Заўвагі

[i] Іван Гутараў працаваў у Магілёўскім педагагічным інстытуце ў 1928–1938 гг., з 1939 г. — у БДУ. Кандыдацкую дысертацыю «Паэтычнае майстэрства Маякоўскага» абараніў у 1939 г. у Маскоўскім інстытуце філасофіі, літаратуры і гісторыі (ИФЛИ).

[ii] Маецца на ўвазе выданне: Belorussische Volksmärchen / herausgegeben von L. G. Barag. Berlin : Akademie-Verlag, 1966. Да 1980 г. кніга вытрымала дзевяць перавыданняў.

[iii] Дзеля справядлівасці варта заўважыць, што Гутараў публікаваў артыкулы пра партызанскі фальклор з 1943 г. Адзіны артыкул Льва Барага пра партызанскі фальклор (дакладней, фальклор пра партызан): Бараг Л. Г., Меерович М. С. Белорусские народные предания и сказки-легенды о Заслонове и Ковпаке // Советская этнография. 1948. № 2. С. 147–155. Скарочаная версія артыкула па-беларуску: Бараг Л., Мееровіч М. Беларускія народныя казкі-легенды аб Заслонаве і Каўпаку // Полымя. 1948. № 1. С. 88–95. Як сведчыць пазнейшая публікатарская дзейнасць Барага (сярод іншага, у 1970-я ён удзельнічаў у падрыхтоўцы некалькіх тамоў серыі «Беларуская народная творчасць»), архіў сваіх палявых матэрыялаў па беларускай этнаграфіі ён у 1949 г. забраў з сабой. Іншая справа, што праз расправу з Барагам Гутараў прыбраў з дарогі патэнцыйнага канкурэнта.

[iv] Аркадзь Шульман піша пра выкарыстанне Гутаравым матэрыялаў Марыі Мееровіч: Шульман А. Не потерять достоинства. С. 91. Падрабязней пра Мееровіч гл. у прадмове (зноска 42 на с. 30).

[v] Маецца на ўвазе выданне: Факторович Д. Основы теории художественного перевода. Минск : Кнігазбор, 2009. Другая прадмова да гэтай кнігі («Слова пра настаўніка», с. 7–12) напісана Адамам Мальдзісам.

[vi] Іван Чымбург фармальна стаў рэктарам БДУ 26 ліпеня 1949 г. Пры гэтым папярэдні рэктар Уладзімір Тамашэвіч склаў з сябе абавязкі ў лютым 1949 г. У сакавіку 1949 г. Чымбург працягваў лічыцца дырэктарам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б.

[vii] Іван Кудраўцаў на той час быў аспірантам філфака пер-

шага года навучання і адначасова супрацоўнікам газеты «Літаратура і мастацтва», у далейшым перавёўся на завочнае навучанне.

[viii] Персанальную справу І. Кудраўцава за няпоўную аплату партыйных складак разглядалі на партбюро БДУ 16 лютага 1949 г. (НАРБ. Ф. 205. Воп. 16. Спр. 16. Арк. 22–24). У сваім заключным слове Кудраўцаў сказаў наступнае: «Я признаю и понимаю, что я грубо нарушил устав. Но я прошу бюро не исключать меня из партии, я буду партии еще полезен» (Тамсама. Арк. 24).

[ix] Рыгор Шкраба (1919–1997) — беларускі крытык, літаратуразнавец. Быў супрацоўнікам газеты «Літаратура і мастацтва» ў 1946–1957 гг.

[x] Юрый Аляксандравіч Васільеў (1922, г. Паўлава Ніжагародскай вобласці — ?) у 1948 г. скончыў філалагічны факультэт БДУ, у 1948–1951 гг. вучыўся ў аспірантуры пры кафедры філасофіі БДУ. У красавіку 1952 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю па тэме «Вопросы эстетики и литературной критики в работах В. В. Воровского». З кастрычніка 1952 г. па 1955 г. — дэкан філалагічнага факультэта БДУ. Асноўныя працы: «В. И. Ленин и некоторые вопросы научного предвидения в общественной жизни» (Мінск : Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1962), «В. И. Ленин и социальное предвидение» (Мінск : БДУ, 1978), «Методические материалы по использованию материалов XXVI съезда КПСС в курсе диалектического и исторического материализма» (Мінск : БДУ, 1981). Чалец ВКП(б)/КПСС з 1943 г. Ягонага бацьку Аляксандра Іванавіча Васільева (1898–1938), які на той час займаў пасаду наркама лясной прамысловасці Грузінскай ССР, арыштавалі ў 1937 г. і расстралялі. Апошняе часткова тлумачыць паводзіны Ю. Васільева падчас ідэалагічных кампаній канца 1940-х гг.

[xi] Аляксандр Андрэевіч Філімонаў (1918–2007), падрабязней пра яго гл. зноску да дакумента 4 на с. 97.

[xii] Лаўрэн Сямёнавіч Абэцэдарскі (1916–1975), падрабязней пра яго гл. зноску да дакумента 4 на с. 96.

[xiii] Л. Абэцэдарскі вярнуўся да рэдагавання шматтыражкі пазней, у першай палове 1950-х. Так, 12 сакавіка 1953 г. агульны партыйны сход БДУ разбіраў персанальную справу рэдактара шматтыражкі Абэцэдарскага

за затрымку выхаду шматтыражкі пасля смерці Сталіна (газета не выйшла ані 6, ані 7 сакавіка). Гл.: Памяць і слава... С. 161–162.

[xiv] Маюцца на ўвазе ўспаміны У. Мехава «Во мраке девятого вала (1945–1953)» (у кнізе: Репрессивная политика советской власти в Беларуси. Вып. 3. Минск, 2007). Эпізод з практыкай у газеце «Звязда» і роляй Якава Герцовіча прыводзіцца на с. 329–330.

[xv] Якаў Бенцыянавіч Герцовіч (1910–1976) — журналіст, літаратурны крытык. У першыя пасляваенныя гады працаваў у рэдакцыі газеты «Звязда». У 1960-я гг. меў не надта добрую рэпутацыю «партыйнага» крытыка (у прыватнасці, нападаў на творы У. Караткевіча).

[xvi] Іван Матвеенка быў звольнены загадам прарэктара БДУ Азаранкі (рэктар Чымбург быў у камандзіроўцы) ад 28 верасня 1950 г. «согласно поданному им заявлению» (НАРБ. Ф. 205. Воп. 6. Спр. 43. Арк. 232).

[xvii] Праца Сталіна «Марксизм и вопросы языкознания» была апублікавана ў «Правде» 20 чэрвеня 1950 г. і ў тым самым годзе выдадзеная асобнай брашурай у пашыраным варыянце. Яна закрыла дыскусію пра так званае «новае вучэнне аб мове» М. Мара, якую газета праводзіла з 9 траўня. Марызм, які быў да таго асновай афіцыйнага мовазнаўства ў СССР, сышоў са сцэны.

[xviii] Мікалай Якаўлевіч Мар (1864–1934) — усходазнавец, філолаг, гісторык, этнограф і археолаг. Акадэмік Санкт-Пецярбургскай акадэміі навук (1912), затым акадэмік і віцэ-прэзідэнт АН СССР. Яго раннія працы маюць вялікую навуковую каштоўнасць. Пасля рэвалюцыі атрымаў вядомасць як стваральнік «новага вучэння аб мове» (ці «яфетычнай тэорыі»), якое ў канцы 1920-х гг. атрымала афіцыйную падтрымку і да 1950 г. прапагандавалася ў СССР як «марксісцкае». «Новае вучэнне» насіла блытаны і ненавуковы характар.

[xix] Барыс Ізраілевіч Касоўскі, гл. пра яго заўвагу да дакумента № 2 на с. 90. Касоўскага не звольнілі, але калі ў 1951 г. у ВАК СССР былі пададзеныя дакументы на зацвярджэнне яго ў званні дацэнта, то ён не быў зацверджаны. Званне дацэнта Касоўскі атрымаў з другой спробы ў 1955 г. (НАРБ. Ф. 205. Воп. 10. Спр. 368, 369).

[xx] Выступ Івана Матвеенкі супраць Марыі Карнеевай-Пе-

трулан на партыйным сходзе БДУ 24 лістапада 1948 г. цытуецца ў прадмове на с. 40–41. У сваім заключным слове сакратар партбюро БДУ М. Арлоў адказаў на гэты выступ: «Прав тов. Матвеенко, обвиняя в подборе кадров. Мы не поддерживаем Корнееву-Петрулан, но нет пока кем заменить» (НАРБ. Ф. 205. Воп. 16. Спр. 13. Арк. 110).

[xxi] «Божа літасцівы, я — калека» (ідыш).

[xxii] Паіна сапраўды была жонкай Парфёна Пятровіча Савіцкага (1904–1954), рэктара БДУ з 1938 па 1941 і з 1943 па 1946 г. (у 1941–1943 гг. універсітэт не існаваў з-за вайны). Іх развод паслужыў адной з прычын сыходу Савіцкага з пасады рэктара.

[xxiii] Мехаў У. Аблога // Полымя. 1991. № 3. С. 193–195.

[xxiv] Хутчэй за ўсё, згаданая паэма Навума Кісліка не была апублікаваная. Антысеміцкія ідэалагічныя кампаніі позняга сталінізму абмяркоўваюцца ў яго вершы «Личное дело» (Кислик Н. Памяти патефона. Минск : Мастацкая літаратура, 1995. С. 156–157).

[xxv] Алесь (Аляксандр Міхайлавіч) Адамовіч (1926–1994) — пісьменнік, доктар філалагічных навук, прафесар. Выпускнік філалагічнага факультэта БДУ 1950 г. У адным са сваіх аўтабіяграфічных твораў А. Адамовіч згадаў пра І. Гутарава і пра тое, як апошні ледзь не заваліў Адамовіча на абароне дыплома за адсутнасць спасылак на Жданава: Адамович А. Путешествия из Минска в Москву и обратно // Нёман. 1994. № 8. С. 11–13.

[xxvi] Размова адбывалася, калі яшчэ свежым быў мем «Что-то не так» з фільма «Мы, браты…» («Авель»), які выйшаў на экраны ў 2015 г. (пазней за інтэрв'ю), але здымаўся раней. У прыватнасці, сцэны з выкрыкваннем падчас акцыі пратэсту «что-то не так» здымаліся ў канцы студзеня — пачатку лютага 2014 г.

[xxvii] Маецца на ўвазе раман Уладзіміра Някляева «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» (2012).

[xxviii] Хадзееў — татарскае прозвішча, але бацька Кіма Хадзеева пісаўся рускім.

[xxix] Паводле падлікаў Міколы Раманоўскага, у 1970–1971 гг. Кім Хадзееў апублікаваў у «Літаратуры і мастацтве» пад уласным імем сам або ў суаўтарстве з Уладзімірам Рудавым ці Рыгорам Трэстманам адзінаццаць

артыкулаў (Минская школа : Альманах поэзии. Вып. 4. С. 323.). У «Чырвонай змене» ў 1956 г. быў апублікаваны адзін артыкул Кіма Хадзеева.

[xxx] Анатоль Андрэевіч Дзялендзік (1934–2019) — драматург, сцэнарыст, празаік.

[xxxi] Уладзімір Мехаў жыў у доме № 37 па праспекце Леніна/Скарыны/Незалежнасці каля плошчы Перамогі. Кім Хадзееў жыў у двух кварталах ад яго ў доме па вуліцы Захарава (з 1983 г. гэты ўчастак вуліцы Захарава быў перайменаваны ў вул. Кісялёва, дом насіў № 17 паводле апошняй нумарацыі, нумарацыя была зменена разам са зменай назвы вуліцы).

[xxxii] Маецца на ўвазе тэлеперадача «Бар “У Олега”».

[xxxiii] Міхаіл Яўгенавіч Цікоцкі (1922–2012) — мовазнавец, журналіст, сын кампазітара Яўгена Цікоцкага. Скончыў аддзяленне журналістыкі БДУ ў 1950 г., у 1953–1989 гг. выкладаў на аддзяленні, потым факультэце журналістыкі БДУ. Доктар філалагічных навук (1972).

[xxxiv] Галіна Ануфрыеўна Васілеўская (у дзявоцтве Скрыпко, 1927–2017) — пісьменніца. У 1950 г. скончыла аддзяленне журналістыкі БДУ. Працавала ў часопісах «Сельская гаспадарка Беларусі», «Работніца і сялянка», «Полымя».

[xxxv] Круцікава не была жонкай Рэзнікава, хаця паміж імі і мелі месца рамантычныя адносіны.

[xxxvi] Леанід Рэзнікаў і Людміла Круцікава пакінулі БДУ ў 1951 г. Але Рэзнікаў накіраваўся ў Кішынёўскі ўніверсітэт, а Круцікава паехала да Фёдара Абрамава ў Ленінград. Рэзнікаў выкладаў у Петразаводскім універсітэце з 1956 г., а Круцікава пэўны час не магла знайсці ў Ленінградзе працу і выкладала наездамі ў Петразаводску.

[xxxvii] Верш Уладзіміра Сасюры «Любіть Україну» быў напісаны ў 1944 г. Верш быў раскрытыкаваны за «буржуазны нацыяналізм» у артыкуле «Против идеологических извращений в литературе», апублікаваным 2 ліпеня 1951 г. у газеце «Правда».

[xxxviii] Артыкул Барыса Бур’яна «Слова паэта — зброя народа» выйшаў у газеце «Літаратура і мастацтва» 4 жніўня 1951 г.

[xxxix] Багатай, шчаслівай, // Як песня, прыгожай.

## 5
## Юрий Айхенвальд
## ТЕАТР В СУМАСШЕДШЕМ ДОМЕ

Зэки — всегда тени былой своей реальности: тени своего прежнего генеральства, профессорства или иного достоинства; б/з/к — больные-заключенные тюремных психиатрических больниц — были тенями теней, уже совершенно бесправными и бессильными. И тем не менее в Ленинградской тюремной психиатрической больнице существовала худож[ественная] самодеятельность. Меня привезли в эту больницу со следствия по пресловутой «пятьдесят восьмой»[i] в мае 1952 года. И очень скоро я оказался участником самодеятельного концерта вместе с Александром Асарканом, благодаря которому я из приемного отделения сразу же попал на отделение для выздоравливающих.

Александр Асаркан, впоследствии блестящий и памятный многим эссеист и критик, теперь житель Соединенных Штатов, был в то время тоже больным-заключенным «психушки» на Арсенальной, 9, которую, впрочем, правильнее было бы назвать «психарней», ибо решительно ничего уменьшительно-ласкательного в этой огромной и мрачной тюрьме не было.

Асаркан тогда баловался стихами, одно четверостишие я помню:

Лучше ехать по кривой дороге,  
Чем все время следовать вперед[1].  
Все системы лживы и убоги.  
Правильно всегда наоборот[2].

Эти строки для самодеятельности умалишенных не годились, поскольку больно задевали принципы социальной ориентации здравомыслящих людей. Для концерта Асаркан придумал другой стихотворный текст; оттуда я помню только две строчки:

Внизу Ромео кличет  
Блатную Беатриче.

Совмещение Шекспира и Петрарки требует пояснения, тем более, что «Беатриче» зовется Ленка Черная из Петрозаводска, а Ромео был литовец Йонас-Йозис (фамилии не упомню).

Этот театр масок, но театр в жизни, возник у нас в психушке из-за того, что на ее территорию выходил один из корпусов женской исправительно-трудовой колонии. «Красны девицы» в своих светелках, за решетками, но без козырьков, находили себе среди нас кавалеров, с которыми изъяснялись жестами, записками (записки назывались «ксивы»), спускавшимися на нитках (мы привязывали ответы), некоторые пары усвоили даже азбуку для глухонемых. Получался естественный театр мимики и жеста — отнюдь не те-

---

[1] Да выпраўлення ў рукапісе Айхенвальда: «Лучше ехать по кружной дороге, / Чем всегда искать пути вперед».

[2] Павел Уліцін прыводзіць гэтыя радкі ў іншым варыянце: «Все идеи лживы и убоги, правильно лишь все наоборот». Гл.: Улитин П. «Четыре кварка» и другие тексты. С. 69.

